PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 44 (1851) 3 ЛІСТАПАДА 1991 г. ЦАНА 1000 зл.



Заблудаў. *Фота Янкі Целушэцкага.*

****************************************************************

# БЕРАСЦЕЙСКАЯ УНІЯ 1596

**РАЗМОВА З АЙЦОМ РЫГОРАМ САСНОЮ**

*— Вядома мне, што Вы ў сваіх навуковых доследах займаліся пытаннем рэлігійнай уніі. Ці магчыма, па-Вашаму, вызначыць, хаця б і прыблізна, пачатак таго рэлігійна-палітычнага курсу, які закончыўся падзеяй, якая ў гісторыі запісана як Берасцейская унія?*

**Рыгор Сасна:** Як пачатак уніяцкіх тэндэнцый можна прыняць Трыдэнцкі сабор, мэтаю якога было ўмацаванне пазіцыі Каталіцкага касцёла. Падзел, да якога дайшло ў выніку рэфармацыі, падрываў аўтарытэт папства — Каталіцкі касцёл баяўся, што прыхільнікі рэфармацыі злучацца з вернікамі Праваслаўнай царквы ды супольна выступяць супроць Рыма. І так, ва ўмацаваным і адроджаным контррэфармацыяй і Трыдэнцкім саборам Каталіцкім касцёле набывае сілу місійная дзейнасць, мэтаю якой было ўз'яднанне абедзвюх цэркваў. Няйначай, а якраз з гэтага наступу паслятрыдэнцкага каталіцызму ды з безнадзейнага становішча Праваслаўнай царквы бярэ пачатак падзея, запісаная ў гісторыі як Берасцейская унія. Папярэдзіў яе шэраг палітычных уній — у 1386 годзе, у 1413, 1444 ды Люблінская ў 1569 годзе, якая мела вырашальны ўплыў на лёс праваслаўя і праваслаўнага насельніцтва ў межах польска-літоўскай дзяржавы. У палове XVI стагоддзя ў Літве (Літву трэба разумець у яе гістарычным значэнні) з'явіўся пратэстантызм, які нібыта выступаў у якасці саюзніка Праваслаўнай царквы. Хутка, аднак, аказалася, што пратэстантызм, выступаючы супроць каталіцызму, наносіў удары і па праваслаўю. За кароткі перыяд пратэстантызм схіліў на свой бок такую колькасць праваслаўных, якой Каталіцкаму касцёлу не ўдалося прыцягнуць да сябе праз усё стагоддзе. Факт гэты падштурхнуў Рым, каб узмоцніць на гэтых землях місійную дзенасць, каб прысласць сюды езуітаў...

*— Езуіты — іхняя роля ва ўсім пытанні уніі як бы самая істотная....*

**Р. Сасна:** Езуіцкі ордэн быў заснаваны ў 1540 годзе дзеля змагання з рэфармацыяй. У Польшчу езуіты прыбылі ў 1564 годзе, праз пяць гадоў з'явіліся і ў Літве. Галоўнай іхняй зброяй быў рэлігійны фанатызм — у сваёй дзейнасці ўмела выкарыстоўвалі грамадскія канфлікты ў гарадах, прывівалі насельніцтву нянавісць да іншых веравызнанняў, прыцягвалі да сябе выдатных пісьменнікаў і публіцыстаў. У Польшчы езуіты надзвычай хутка здабывалі ўплывы — выступалі яны за ўмацаванне цэнтральнай улады, у выніку чаго падтрымлівў іх каралеўскі двор. Асабліва вялікую энергію ў прапагандысцкай працы праявіла першае пакаленне езуітаў — высокаадукаваныя святары мяшчанскага паходжання. У сваіх школах і калегіях выхоўвалі шляхецкую моладзь на адданых сабе людзей. Не без значэння тут і той факт, што польскі кароль Жыгімонт III яўна падтрымліваў якраз каталіцкую шляхту, абмінаючы не-католікаў у раздаванні дабротаў і пасадаў. Вялікая частка шляхты пераходзіла ў каталіцтва не толькі з перакანання, але перад усім для кар'еры.

*— Ці пераход праваслаўнай шляхты ў каталіцтва быў адназначны з перамогай ідэі уніі на праваслаўным абшары?*

**( Працяг на стар. 6 )**

## З ПЛЕНУМА ГП БГКТ

20 кастрычніка 1991 года адбыўся ў Беластоку чарговы пленум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У павестцы дня прапанавалася разгледзець дзве справы: асветную і канцэпцыю дзейнасці БГКТ. Аднак першае пытанне было адтэрмінавана ў сувязі з тым, што методык па беларускай мове Тамара Русачык не прыехала на пленум, а яна мела падрыхтаваць і прачытаць даклад аб стане навучання беларускай мовы на Беласточчыне. Такім чынам, пленум абмежаваўся да адной справы: канцэпцыі БГКТ сёння і заўтра. Даклад, азагалоўлены „БГКТ і сучаснасць", прачытаў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, а справаздачу аб дзейнасці штатных працаўнікоў БГКТ за апошні год прадставіў сакратар ГП Віктар Стахвюк, які папрасіў таксама вызваліць яго з функцый у БГКТ. Пасля персанальных зменаў на кіруючых пасадах у Таварыстве (пісала аб гэтым „Ніва" ў папярэднім нумары) пачалася дыскусія, якая засяродзілася на двух справах — школьніцтве і самадзейным мастацкім руху.

БГКТ у сваёй працы не адводзіць належнага месца навучанню беларускай мовы — такі тэзіс прагучаў амаль ва ўсіх выступленнях прысутных на пленуме настаўнікаў. Васіль Сакоўскі прапанаваў стварыць пры БГКТ моцную, аператыўную камісію па справах асветы, якая надзейна супрацоўнічала б з Куратарыяй у Беластоку і асветнымі ўстановамі на Беларусі. Зараз адкрыліся амаль неабмежаваныя магчымасці навукі нашай моладзі ў беларускіх вышэйшых навучальных установах. Трэба ў гэтым напрамку весці падрыхтовачную працу з нашай моладдзю, а кандыдатаў на навуку ў Беларусі павінна кваліфікаваць створаная Таварыствам спецыяльная камісія. БГКТ павінна дапамагчы школам здабыць беларускія часопісы, бо пакуль няма магчымасці звычайна падпісацца на іх. У Гайнаўскім ліцэі прыдаўся б хаця з адзін экземпляр „Літаратуры і мастацтва".

Аляксей Карпюк, шматгадовы дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, заявіў, што з 25 верасня не кіруе ён школай у сувязі з пераходам на пенсію. Зараз Куратарыя рыхтуе конкурс на пасаду дырэктара гэтай школы і да 23 кастрычніка будуць прымацца заявы ад кандыдатаў. Адным з іх ёсць намеснік дырэктара ліцэя Зінаіда Навіцкая. У сваім выступленні

**( Працяг на стар. 2 )**

## НА МЯЖЫ

— 60 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Развітваючыся з тэмай „Беларускі музей", хацелася б мне яшчэ раз падкрэсліць, што музейная ідэя нарадзілася не пад уплывам нашых амбіцый ці ахвоты паказаць сябе, пахваліцца сваёй ініцыятыўнасцю. Вынікала яна з глыбокага перакanання, што наша пакаленне з'яўляецца апошнім пакаленнем, якое можа яшчэ выратаваць помнікі старой беларускай матэрыяльнай культуры. Адносіцца гэта да апрацоўкі зямлі, розных рамёстваў і прыладаў штодзённага ўжытку. Мабыць, ужо ніколі людзі не будуць рабіць драўляных калёс, лыкавых рашотаў, саматканай вопраткі, лыкавых ці скураных лапцяў. Мабыць, ніколі ўжо не будуць малаціць збожжа цапамі, малоць у жорнах, араць сохамі. А ўсё гэта яшчэ не так даўно было штодзённай рэчаіснасцю. Я асабіста шчаслівы таму, што ўсё гэта не толькі бачыў, але і паслугоўваўся гэтым на працягу цэлых тыдняў, месяцаў і гадоў. Між іншым, у маёй хаце выраблялiся рашоты. І я навучыўся ад бацькі гэтаму рамяству і першы раз, калі мне не было яшчэ чатырнаццаці гадоў, зрабіў рэшата, якое бацька павёз на базар у Ялоўку. Я вельмі непакоіўся, ці бацьку рэшата ўдасца прадаць, бо было яно выканана з досыць дрэннай сыравіны. Аднак, аказалася, што бацька прымяніў прыём, дзякуючы якому рэшата прадаў на працягу адной мінуты.

Заехаўшы на базар, бацька падняў рэшата вельмі высока і крыкнуў: налятай на дзяшоўку! Адразу знайшоўся чалавек, які купіў рэшата за некалькі нямецкіх марак, бо быў гэта перыяд нямецкай акупацыі. Зразумела, што маё рэшата не асталося ў гэтага гаспадара і ва ўспаміне. Але сёння, калі б была такая магчымасць, я з прыемнасцю падарыў бы яго Беларускаму музею.

Збудаваць музей гэта адна задача, напоўніць яго— задача другая. З кожным днём гінуць беспаваротна экспанаты і таму трэба іх як мага хутчэй збіраць і забяспечваць. Я, зрэшты, раблю гэта ўжо на працягу некалькіх год. Удалося мне захаваць многае бацькоўскае, але і набыць сёе-тое ад суседзяў або ад чужых людзей. Трэба сказаць, што беларускі селянін характарызуецца спецыфічнымі рысамі. Выкідвае ён пад дождж і слоту многія экспанаты, трактуючы іх як непатрэбныя хатнія рэчы. Калі, аднак, толькі звярнуся да яго, каб перадаў свае старыя рэчы ў музей, зараз жа ў яго паяўляецца перакананне ў іх фінансавай бясцэннасці. І нарэшце называе такую цану за драўляную барану, што за гэтыя грошы можна было б купіць паўтрактара.

Аднак большасць гэта людзі, якія ўласціва ацэньваюць значэнне музея і ахвотна перадаюць экспанаты бясплатна або за невялікія грашовыя сумы. Дык я і куплю з той мэтай, каб запоўніць адну залу толькі тымі рэчамі, якія паходзяць з гаспадаркі маіх бацькоў або суседзяў. Апрача гэтага, я хацеў бы перадаць у Беларускі музей некалькі дзесяткаў самавараў. Праўда, самавары не ёсць вырабам сялянскім, беларускім. Аднак сабраны яны ў асноўным на беларускай зямлі. Значыць, яны зжыліся з беларускім людам і адыгрываюць у сялянскім жыцці акрэсленую ролю. Большасць з гэтых самавараў была прывезена выгнаннікамі з Беласточчыны, бежанцамі, якіх лёс закінуў аж у Сібір.

Апрача прадметнай дапамогі, намерваюся на працягу бліжэйшых трох гадоў — бо столькі прыблізна будзе яшчэ будавацца музей — унесці ў яго фонд некалькі мільёнаў злотых. Усё тое скромнае, што я зрабіў і зраблю для Беларускага музея, вынікае з нармальнай патрэбы сэрца і з таго, каб я меў права гаварыць аб ім: мой музей.

Так, музей гэта мінулае, аднак памятайма, што без пазнання свайго мінулага ніводзін народ не ўфармуе ўласціва сваю будучыню. Беларускі музей у Гайнаўцы гэта векапомны пачын усіх беларусаў, якія пастанавілі людзьмі звацца.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

**********************************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Сейм** прыняў пастанову аб ратыфікацыі польска-нямецкага трактата аб добрым суседстве. За прыняццё пастановы галасавалі 182 пaслы, супраць — 26, устрымаліся — 60.

**Польска-нямецкае прымірэнне— так** будзе называцца фонд, які займецца дапамогай ахвярам нацысцкіх злачынстваў. Нямецкі ўрад перадасць фонду 500 мільёнаў марак, згодна пагадненню паміж урадамі. Паводле інфармацыі МЗС у Польшчы пражывае 40 тысяч былых вязняў канцлагераў і 500—600 тысяч рабочых, вывезеных на прымусовыя работы.

**Маршалак Сената праф. Анджэй Стэльмахоўскі** пабываў на Беласточчыне. У час сустрэчы з жыхарамі Беластока падтрымаў ён свой заклік да палякаў на Літве, каб у імя захавання польскасці падпісвалі яны патрэбныя дакументы для атрымання грамадзянства. Праф. А.Стэльмахоўскі прымаў таксама ўдзел у адкрыцці помніка „Ахвярам вайны, насілля і рэпрэсіі" ў Гайнаўцы і сустрэўся з жыхарамі Бельска-Падляшскага.

**Па запрашэнню Літоўскага грамадска-культурнага таварыства** пабываў на Сувальшчыне намеснік прэм'ер-міністра Літвы **Зігмас Вайшвіла**. Наведаў ён Сэйны, Крэйвяны і Пунск і сустрэўся з пражываючымі там літоўцамі.

**У пунскім ЗАГСе** будуць даваць шлюб на польскай і літоўскай мовах. Гэтага літоўцы дамагаліся многія гады. Аказалася, што няма законных перашкодаў, каб у час цырымоніі карыстацца дзвюма мовамі.

**Фірма „Амега"** (кіруюць ёю Міраслаў Целушэцкі і Валянцін Сельвясюк) плануе прадаць 120 тысяч тон збожжа ў Беларусь. Узамен будуць яны імпартаваць салярку. 18 кастрычніка г.г. на станцыю ў Кузніцы-Беластоцкай прыбыў першы транспарт 50 цыстэрнаў з салярkай з Наваполацка. Зараз фірма „Амега" інсталюе абсталяванне для пагрузкі збожжа на станцыі Семяноўка.

**Беластоцкая „Газета Всплучэсна"** змясціла ліст пасла **Яна Бэшты-Бароўскага** разам са стэнаграмай яго сеймавай заявы, у якіх абвінавaціў бацьку пасла **Уладзіміра Цімашэвіча** ў злачынстве (бацька У. Цімашэвіча быў афіцэрам контрразведкі ў Войску Польскім). Тая ж газета адмовілася змясціць рэпліку У. Цімашэвіча наконт паклёпу пасла Я. Бэшты-Бароўскага (іншыя газеты надрукавалі). Раённы суд у Беластоку прыгаварыў рэдакцыю „Газеты Всплучэснай" надрукаваць гэту рэпліку.

## З ПЛЕНУМА ГП БГКТ

**( Працяг са стар. 1 )**

падтрымаў ён патрэбу цеснага супрацоўніцтва БГКТ з Куратoрыяй і ўстановамі ў Беларусі ў справе школьніцтва.

Пра ніклы кантакт Таварыства з настаўнікамі беларускай мовы гаварылі Уладзімір Ювзюк і Канстанцін Майсеня. Прадстаўнікі БГКТ павінны часцей бываць у школах, прымаць удзел ва ўрачыстасцях (напрыклад, пачатак навучальнага года), арганізаваць канферэнцыі, прысвечаныя навучанню беларускай мовы. Сяргей Харкевіч прапанаваў Таварыству ў кантакце з асветнымі ўладамі паклапаціцца пра тое, каб у беларускіх асяроддзях дырэктарамі школ былі беларусы.

Сучасны стан беларускага аматарскага руху — гэта другая балючая справа, якая закраналася ў прамовах удзельнікаў пленума. Драматычна прагучаў голас Паўла Лемеша, які гаварыў аб распадзе бельскіх „Васілёчкаў", і заклікаў ратаваць гэты ансамбль. „Нашы" ўкраінцы з Бельска завіхаюцца вакол членаў гэтага хору і хочуць з іх стварыць свой калектыў. Аб спробах перахапіць беларускія калектывы ўкраінцамі расказала Валянціна Міцэвіч, кіраўнічка калектыву „Каліна" з Дашоў. Па прапанове ўкраінскіх дзеячоў іх калектыў пабываў на канцэртах на Украіне. Тыя ж дзеячы прапанавалі ім таксама музычнага інструктара і новыя ўкраінскія народныя ўборы.

Адсутнасць пастаянных кантактаў БГКТ з аматарскімі калектывамі, невыкарыстоўванне іх у мерапрыемствах можа спрычыніцца да таго, што перахопяць іх украінцы. На такую пагрозу звярталі ўвагу Сцяпан Копа і Мікалай Бушко. БГКТ павінна выйсці да калектываў з цікавымі прапановамі. На Беларусі многа высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія ахвотна прыехалі б працаваць з калектывамі да нас. Такім чынам можна было б палагодзіць усе патрэбы ў галіне музычнага інструктажу. Аб гэтым трэба размаўляць з прадстаўнікамі культурных устаноў на Беларусі. Беласточчына традыцыйна вядзе супрацоўніцтва з Гродзеншчынай. Таварыству трэба пачаць супрацоўнічаць з Брэстчынай. Фальклор гэтай вобласці больш сходны з фальклорам ваколіц Гайнаўкі, Бельска і Сямяціч. Абмен калектываў нашых і з Брэстчыны быў бы для нас вельмі карысны.

На неабходнасць уласцівага выкарыстання будынку Таварыства і транспарту звяртаў увагу старшыня Рэвізійнай камісіі БГКТ Уладзімір Ювзюк. Трэба тут прыгадаць, што Таварыства мае аўтобус, мікрааўтобус і легкавую машыну. Раней усе наракалі, што канцэрты не арганізуюцца, бо няма чым вазіць калектывы, а чужы транспарт вельмі ж дарагі. Зараз ёсць свой транспарт, а калектывы надалей не ездзяць па вёсках з канцэртамі.

Аўтар гэтых радкоў гаварыў аб тыражы „Нівы" і клопатах з яе распаўсюджваннем. Быў гэта адказ на крытыку, якая прагучала ў выступленні старшыні БГКТ. Сказаў ён, што нізкі тыраж газеты гэта вынік кампаніі, якая вядзецца на старонках „Нівы" супраць БГКТ. Сцвердзіў, што „Ніва" не адлюстроўвае жыццё беларускага грамадства, мала піша пра вёску, і параіў рэдактару штудзіраваць змест „Нівы" з перыяду яе найбольшага тыражу і браць з таго прыклад. Хачу тут звярнуць увагу чытачоў, што крытычныя артыкулы ў адрас БГКТ гэта не прычына, а вынік раз'яднання беларускага руху, палярызацыі поглядаў арганізацый на спосабы дзейнасці ў беларускім асяроддзі. Не стаў я спрачацца пра змест „Нівы", бо на гэта спатрэбілася б больш часу, але прыгадаў аб'ектыўныя абставіны, якія прычыніліся да змяншэння тыражу „Нівы". Зараз друкуем 2200 экземпляраў нашага тыднёвіка. У 1988 годзе яго тыраж даходзіў да 5400 экземпляраў, у тым ліку 2300 паасобнікаў трапляла на Беларусь. У краіне разыходзілася 3100 экземпляраў. На працягу гэтага часу тыраж знізіўся на 900 экземпляраў, а ўплыў на гэта мелі напэўна ўзрост цаны, ліквідацыя вясковых клубаў „Рух", дадатковыя аплаты за падпіску на пошце і змяншэнне колькасці школ і вучняў, якія вывучаюць беларускую мову. У далейшым нельга падпісацца на „Ніву" ў Беларусі.

У дыскусіі закраналіся таксама пытанні пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і нізкай якасці беларускіх радыёперадач па Беластоцкім радыё.

**В. ЛУБА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


* Эміграцыя не зможа дапамагчы многа - размова з Васілём Мельяновічам з ЗША.
* Сустрэча з беларускім прэм'ерам.
* У гданьскіх беларусаў.
* Святыя беларускай зямлі - св. Дзіянісій.

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 383

## ЖЭНЯ МАРТЫНЮК

* * *

Што —
дзе —
як —
нічога няма
нічога не было

Я —
ты —
мы —
толькі нас двое
і тая пустата

Глянь —
вось —
там —
што бачыш скажы
ці бачыш там штосьці

Год —
два —
тры —
як доўга яшчэ
будзеш блудзіць у сне...

## ЖЫЦЦЁ

— паэма пра чалавека
многасць эпітэтаў, алегорый
сказы - думкі...

— доўгі шлях дарожны
сярод узгоркаў і лясоў
ніў і рэк...

— птушак спеў пераліўны
вясёлы гоман ветру,
кветкі - прыгажуні...

— сэрцы хлопцаў, дзяўчат
іх манатонны рытм,
усё навокал...

## ВОСЕНЬ У ТАНЦЫ

Завіравала восень
у магічным танцы
у сукенцы - казцы
пабегла да неба.

Сыпнула лістамі
нібы пазалотай
матулі - зямельцы
проста ў далоні.

А музыка іграе
ўсё больш віруе
восень у падарожжы
высокім далёкім.



* * *

Навошта зрок
калі чалавек слепне
кахаючы?...

Навошта душы агонь
калі ростані
халодныя як лёд?...

Навошта сэрцу рытм
калі памірае
прырода?...

Навошта веды
калі пустка
навокал уладарыць?...

## БУДУЮ ДОМ

Будую дом
з маіх мараў
з вясёлымі
светлымі
вокнамі
з шырока
адчыненымі
дзвярыма
з багата
накрытым
сталом
з цёплай
сямейнай
радасцю
— — — — — — — — — — — —
будую высока
пад мірным небам.



**********************************************************************

## АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК

* * *

заўтра пачнецца
лёд
на знатужанае скрыбою
цела
і кроплі цяжкія
як камні Сізіфа

не скрышыш таго
ільду
нават цеплынёю
сваіх чырвоных
вуснаў
яны толькі
разгарацца
і пасінеюць
разам з рукамі
разам з нагамі
разам з сэрцам

можаш толькі
верыць
у каменную фігуру
якую іншыя
будуць называць
богам
а ты крыжам
перад ёю
і сінімі як хмурнае
неба
вуснамі
будзеш ляжаць

* * *

на пустых берагах
не баляць словы
не трывожыць шэлест
не падымае світанак
добра ёсць

на самотных вуснах
збіраецца назаўсёды
усмешка першага пацалунку
шчаслiва ёсць

на тваіх вачах
замглёныя цені крыўды
якой не хочаш перадаць
маўкліва ёсць

на маіх руках
крык ашалелага ветру

усё ёсць



# У Зяўровачцы павечарэла...

У Зяўровачцы вечарэла. Людзі канчалі ўпраўляцца. Пад вясковым клубам пачала збірацца моладзь — у пятніцу з цягніка спяшаліся вучні з сярэдніх школ з суседняга горада. Васьмікласнікам, як і ўсім вучням пачатковай школы ў Зяўровачцы, бацькі не дазвалялі лазіць па цёмных вулачках пасля дваццатай, усё ж часта выстойвалі яны пад святліцай, заходзілі па пяць разоў у клуб купіць пачку мятных гарошкаў ці цыгарэт „для бацькі" (махорку прасілі ўсё больш адкрыта, прапахлыя танным дымам), не тоячыся перад настаўнікамі. Настаўнікаў у вёсцы жыло толькі чатырох, што тут паўжаняліся ў тутэйшых дзяўчат, рэшта даязджала цягніком у гарадок, дзе мелі свае кватэры ў блоках і ў сярэдніх школах сваіх дзяцей, якія тут, у Зяўровачцы, закончылі пачатковую адукацыю. Настаўніцкія дзеці вучыліся па ліцэях, адна толькі Караліна хадзіла ў сельска-гаспадарчую школу, хаця Эдгар, яе бацька, статны сівы фізік, позна ажаніўшыся на настаўніцы па біялогіі, займеўшы дзяцей, захацеў выправіць іх на людзей, а тут дзеці простых сялян мелі пераскочыць яго Караліну? Караліну вельмі ж цягнула ў гэту вёску, з якой з палёгкай кожны падвячорак выязджаў стары настаўнік Эдгар, у дарозе на чыгуначную станцыю ледзь ахаланаючы ад дзіцячых крыкаў на перапынках і сляпой злосці на зацятае, тупое маўчанне і блуканне па стале вачэй вучняў, да якіх не даходзілі простыя і ясныя правы фізікі. Ён ненавідзеў гэту дарогу. Дачку ён часта сустракаў, калі тая ехала з горада на вясковую дыскатэку ў Зяўровачку, з парай дзяўчат са свае школы. Сорамна было крычаць на яе пры чужых, і ён пагрозліва глядзеў дачцэ ў нахабныя вочы, а адбіваў усё дома, у суботу ці нядзелю, калі дзяўчына паяўлялася раніцай, сонная і змучаная.

— Не чапай мяне, тата, не ўспамінай мне, што я — дачка настаўніка. Я маю права так паводзіць сябе, як хачу. Дома буду сядзець тады, калі буду такая старая, як ты... І так не маеце са мной бяды! — Караліна вяла разувалася са стаптаных туфляў у вітальні, бразгала дзвярыма ў ванную, напускала сабе поўную ванну вады і мокла гадзіну, гартаючы каляровыя часопісы. Маці моўчкі рыхтавала сняданак, сядалі за стол. Ганна шмат размаўляла з бацькамі сваіх вучняў пра тое, як пазбегчы вынікаў „канфлікту пакаленняў", як асцярожна даходзіць да душы маладога чалавека, каб мець удзел у яе стварэнні, але нічога не паламаўшы — сама з вялікімі цяжкасцямі магла весці размову з дачкой. Малодшы сын, Патрык, быў больш даступны, не меў праблем у кантактах ні з бацькамі, ні з сястрой, хаця тады, калі дзеці былі малыя, панавала між імі зайздрасць за бацькоўскія да іх пачуцці. Цяпер без праблем дзяліліся відэакасетамі, мяняліся вопраткай, размаўлялі, але калі паяўлялся нехта з бацькоў, моўклі, не глядзелі яму ў вочы.

— Маеш да нас якую справу? — кідала тады ў паветра Караліна, і не

( Працяг на стар. 4 )

# КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ЛОНДАНЕ

Пад загалоўкам „Уніяцкая царква ў Беларусі" 5 і 6 кастрычніка 1991 года прайшла навуковая канферэнцыя ў Лондане. Арганізатарамі яе былі: Апостальскі візітатар для беларусаў, Англа-беларускае таварыства і Лонданскі універсітэт. Канферэнцыя наладзілася пры грашовай падтрымцы фондаў Форда і Цеханавецкага.

У пятніцу 4 кастрычніка ўдзельнікаў канферэнцыі прыняў на банкеце дырэктар Школы славянскіх студыяў Лонданскага універсітэта прафесар М. Бранч і пажадаў гісторыкам плённай працы ў час канферэнцыі. Арганізатары прыпомнілі, што такім чынам яны хочуць адзначыць дваццаць гадоў існавання Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане і дзесяць гадоў ад смерці яе заснавальніка біскупа Часлава Сіповіча.

У суботу 5 кастрычніка канферэнцыя пачалася ад літургіі за супакой душы біскупа Часлава Сіповіча ў царкве святых апосталаў Пятра і Паўла ў Marian House. Пасля літургіі былі зачытаны і абмеркаваны наступныя даклады: а. А. Надсона (Лондан) „Унія ў Беларусі ўчора і сёння", А. Каўкі (Масква) „Нацыянальнасць і рэлігія Францішка Скарыны", А. Мірановіча (Беласток) „Няведамая гісторыя цудатворнай іконы Жыровіцкай Божай Маці", А. Грыцкевіча (Менск) „Уніяцкая царква ў Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX стагоддзяў", Дж. Флына (Вустор, ЗША) „Міхал Бабdroўскі ў Віленскай семінарыі", Н. Гэляр (Лондан) „Уніяцкая царква ў „Дзядах" Адама Міцкевіча".

6 кастрычніка чыталіся наступныя даклады: Н. Мячкоўскай (Менск) „Рэлігія і мова", Дж. Дынглі (Лондан) „Біскуп Часлаў Сіповіч" і Г. Пікарда (Лондан) „Адраджэнне традыцыйнай беларускай царкоўнай музыкі". Тры апошнія даклады выклікалі доўгую дыскусію. Удзельнікі яе звярталі ўвагу, што Царква і Касцёл на Беларусі далей праводзяць русіфікацыйную і паланізацыйную палітыку. Такая ж сітуацыя існуе і на Беласточчыне. Што зрабіць, каб у святынях, якія наведваюць беларусы, гучала родная мова, захоўвалася іхняя традыцыя, царкоўная музыка? Чаму ў беларускіх цэрквах не чуваць царкоўных распеваў Міколы Куліковіча, а толькі сінадальныя? — пытаў знаўца беларускай царкоўнай музыкі Гай Пікарда. Дыскусія на гэтыя тэмы цягнулася б далей, калі б не вячэра і відэафільм Беларускага тэлебачання, прысвечаны прыезду айца Аляксандра Надсона ў Беларусь. Фільм, які закончыў канферэнцыю, паказаў, што праблема уніі гэта не толькі гістарычнае пытанне, але і праблема сённяшніх дзён.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

# СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



**На схіле лета.**
*Мал. У. Петрука*

# У ЗЯЎРОВАЧЦЫ ПАВЕЧАРЭЛА...

**( Працяг са стар. 3 )**

чакала адказу...

Сёння ў Зяўровачцы зноў вечарэла. Людзі канчалі ўпраўляцца. Стараліся хутка ўсё парабіць, памыцца крыху і бегчы пад святліцу. Штораз радзей туды заходзілі. Стаяла гэта святліца дваццаць гадоў, пабудаваная раней грамадскім пачынам, яшчэ на хвалі пасляваеннай адбудовы краіны, і гніла. Знайшлося пару шалёных асоб, даў начальнік гміны драўніну, і святліца пасвятлела. Пару год не зачыняліся тут дзверы, але якасьці ўсё заглохла. Можа, тыя шалёныя пасталелі? Праўда, ключы да дзвярэй у хлопцаў ёсць, і калі ўжо вельмі хочацца патанчыць, нават і штотыдзень можна дыскатэку рабіць, абы дазвол з гміны быў, але ўсё ж не тое, каб было што ўспамінаць. Дыскатэка — не вясковая забава, з „аркестрай", з півам, як у найлепшыя часы, з „чыкалядным вальсам"!.. Такіх забаў трэба шукаць у суседніх гмінах, хоць бы і ў Гарадку (ды і там ужо не тое...). Селяніну цяпер не да забавы. „Тут плакаць трэ, не гуляць!" — кажа Вася Скоблікаў. І п'е. Кожны п'е, бо што ж зробіш, калі баба не дагледзіць. А адкуль тую бабу ўзяць?! Нап'ецца Вася, гатоў разнесці хату, на мацеру руку падымае, але калі цвярозы — добры такі, хоць да раны прыкладай. Раз так выпіў, аж плакаў, а потым схапіў калок і па вяргінях, па вяргінях матчыных! — усё пабіў! Крычаў: „Нашто нешчасліваму прыгожае?! Хай пропадам прападзе!" Знішчыў такі кветнік, найхарошчы ў вёсцы!..

У Зяўровачцы — сёння свята. „Грамада" аж з Віцебска прыехала! Праўда, аб'ява вісела толькі дзень, на сцяне ў злеўні малака, каля „жалезнай" крамы, на пошце і на счарнелых дзвярах святліцы, нядаўна яшчэ смаліста-жоўтых. Першыя на канцэрт паявіліся бабулькі, каб заняць месцы на крэслах, што асабіста выцер з пылу сухой анучкай кудлаты „грамадоўскі" бубнач-украінец. Прыйшоў і Коля Адрыголец, але не кінуў ні залатоўкі на новы „грамадоўскі" „спшэнт", бо стары сыпаўся не менш, чым струхлелыя масніцы „сцэны".

— Не маю грошай сабе на піва, то ім буду грошы кідаць? Паслухаць то магу! — і затупаў казака.

Разварушыліся зяўровацкія людзі.

— Аж плакаці хочацца — так даўно да нас ніхто з канцэртам не прыязджаў! Эх, „Лявоніху" б нам яшчэ раз перад смерцю пабачыць, пачуць! — уздыхнула баба Юлька.

Ляцяць над Зяўровачкай гукі музыкі, здалёк сапе чыгунка... Пад святліцу, на мураўку, якая густа зарасла даўней вытаптаны падворак, усё заязджаюць машыны...

Караліна прысела на плоце. Каля яе гарадскі хлопец. Не раз з ім пратанчыла цэлую ноч. Праўда, пра яго сур'ёзна думаць нельга — мяняе дзевак як пальчаткі, бо і грошы мае. А дзе ж ён працуе? Цяпер нямодна пытацца пра такія справы. Сёння ён нейкі неспакойны, быццам кудысьці спяшаецца...

— Ідзем, пройдземся, — прапануе кавалер несумненна прыемны шпацыр у бок дыхаючага блізкай восенню ўзлеску. Потым Караліна пойдзе да сяброўкі спаць. Людзі паслухаюць музыку, хто паскача, хто вып'е за вуглом з Васем кропельку самагонкі ад Мальвінкі, хто хутчэй пойдзе паспаць яшчэ крышку перад першай зменай... Ды і на выбары трэба пайсці.

А раніцай у царкве заўважаць, што прапалі тры старыя іконы і келіх, а цудоўнай работы зяўровацкага каваля клямка ад варот памазана нейкай паскудзяю.

Зноў абрабавалі Зяўровачку. Бяднее яна. Божа мой, як бяднее.

**МІРА ЛУКША**

# НОВАЯ ГАЗЕТА Ў ГРОДНЕ

Нарэшце, пасля 52-гадавога панавання Савецкай улады на Гродзеншчыне, карэнныя жыхары Прынямоння дачакаліся абласной беларускамоўнай газеты. Некалькі дзён таму назад у Менску была зарэгістравана газета **„Бацькаўшчына"**.

Трэба сказаць, што на Гродзеншчыне пасля вайны выходзіла беларускамоўная мутацыя абласной партыйнай газеты „Гродненская правда". Пасля памятнага візіту Мікіты Хрушчова, які сказаў у Менску, што „чым хутчэй беларускі народ авалодае рускай мовай, тым хутчэй ён збудуе камунізм", чыноўнікі з Цэнтральнага камітэта кампартыі рэспублікі і іх паплечнікі ў абласцях і раёнах беларускамоўныя газеты ліквідавалі.

Цяпер на Гродзеншчыне, як і ва ўсёй рэспубліцы, адраджаецца беларуская мова, народныя традыцыі, школьніцтва. Аб гэтым і іншых праблемах адраджэння будзе пісаць беларускамоўная абласная газета „Бацькаўшчына". Рэдактарам новага выдання з'яўляецца народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вопытны журналіст Мікола Маркевіч. Вялікі ўдзел у арганізацыі новага выдання належыць вядомаму беларускаму пісьменніку, які жыве ў Гродне, Аляксею Карпюку. Дарэчы гэты чалавек шчодрай душы прыняў у свой час вельмі актыўны ўдзел у адраджэнні братняй польскай культуры і мовы на Беларусі, першым звярнуўшыся да Міхаіла Гарбачова з пісьмом аб становішчы і жыцці палякаў на Беларусі.

**Яўген Скрабоцкі,**

Гродна.

Намесніку старшыні ГП БГКТ

**Янку Сычэўскаму**

шчырае спачуванне
з прычыны смерці бацькі
выказвае
Галоўнае праўленне БГКТ
і рэдакцыя „Нівы"

# ВАНДРОЎКА „ЖЫВОГА СЛОВА”

Жыццё нацыі, грамадскія працэсы найбольш адлюстроўваюцца ў тэатральным мастацтве. У сцэнічнай творчасці праяўляецца стан свядомасці і ўзровень культурнага развіцця народа. Адначасна тэатр з'яўляецца такой формай мастацтва, якая пабуджае свядомасць і актыўнасць грамадства, фармуе нацыянальнае аблічча, спрыяе адраджэнню.

Быў час, калі на Беласточчыне дзейнічала некалькі дзесяткаў беларускіх калектываў сцэнічнай самадзейнасці. Аднак, дайшло да таго, што ў пачатку васьмідзесятых гадоў сцэнічнае слова амаль загінула ў нас. І калі стаў я працаваць на беларускай культурнай ніве, стараўся перш за ўсё адрадзіць на ёй жывое слова. Нялёгкая гэта справа. Пацяшальны толькі факт, што нешта ўдаецца зрабіць. На працягу пяці гадоў у Бельску дзейнічаў „Парнас”. І хоць усяляк было, але каля паўсотні дзяўчат і хлопцаў паспрабавала сцэнічных выступленняў, пасмакавала прыгажосць жывога беларускага слова. Найцікавейшай формай дзейнасці „Парнаса” былі вандроўкі пад час летніх канікулаў па роднай зямлі з беларускім словам і песняй. Такім чынам нарадзілася задума стварыць пастаянны вандроўны тэатр.

На жаль, сіламі вучняў сярэдніх школ Бельска ажыццявіць гэтую ідэю не ўдалося. У выніку розных неспрыяльных акалічнасцей „Парнас” спыніў сваю дзейнасць. Калі пазнаёміўся з тэатрам „Жывое слова” з Педагагічнага інстытута ў Менску (гл. „Ніва” н-р 35 ад 2 верасня г.г.), узнікла магчымасць наладзіць тэатральную вандроўку па Беласточчыне.

У днях 25—30 жніўня г.г. група студэнтаў з „Жывога слова” і некалькі хлопцаў з Беласточчыны вандравалі па трасе: Трасцянка-Пухлы-Цялушкі-Канюкі-Рыбалы. У кожнай з тых вёсак былі паказаны займальныя сцэнічныя праграмы. У рэпертуары „Жывога слова” ёсць фрагмент гістарычнай драмы „Маці Урагану” Уладзіміра Караткевіча, рамантычная пастаноўка эпізоду з рамана „Людзі на балоце” Івана Мележа, цікавыя дэкламацыі, лірычныя песні і сцэнічныя жарты. Студэнты (будучыя настаўнікі) з Беларусі пастараліся задаволіць жыхароў нашых вёсак. Вялікая ў гэтым заслуга сужонства Лены і Юркі Чарэнка, вядучых тэатр. Людзі былі рады сустрэчам з маладымі артыстамі, захапляліся іх сцэнічным майстэрствам. Прытым адчувалася, што нашыя вяскоўцы доўга чакалі беларускага мастацтва, быццам асвяжаючага дажджу пасля працяглай засухі. Выступленні „Жывога слова” выклікалі святочны настрой і зычлівыя пачуцці да роднай культуры. Нашыя сяляне вельмі сардэчна прымалі мілых гасцей. Беларусы ўмеюць быць гасціннымі.

Траса вандроўкі „Жывога слова” вяла правым пабярэжжам ракі Нарва, дзе спрадвеку жывуць беларусы. Ад 1569 года (Люблінская унія, у выніку якой Падляшша перайшло з Вялікага княства Літоўскага ў Польскае Каралеўства) да 1795 г. (III-ці падзел Рэчыпаспалітай) было тут памежжа. Траса сённяшняй вандроўкі знаходзілася ў „Кароне”, а ўжо мястэчка Заблудаў было ў „Літве”. Той гістарычны перыяд пераманіў лёс беларускага народа. Магутная дзяржаўнасць пераўтварылася ў хранічную хваробу залежнасці ад суседзяў з захаду і ўсходу. З таго часу беларусы мусяць змагацца за сваё адраджэнне. Хацелася б, каб і вандроўка „Жывога слова” паспрыяла гэтаму працэсу. Дзяўчаты і хлопцы з Беларусі мелі нагоду пазнаць маляўнічы куточак беларускай зямлі з яго цікавай мінуўшчынай. Паглядзелі нашыя жамчужыны, а менавіта цэрквы і капліцы ў Трасцянцы, Пухлах, Рыбалах. Прайшло многа цікавых сустрэч з мясцовымі жыхарамі. Наведалі ў Канюках народнага разбяра Уладзіміра Наумюка і яго займальную хату-галерэю. Адбыліся сустрэчы з праваслаўнымі святарамі ў Пухлах і Рыбалах, пад час якіх моладзь з Беларусі даведалася пра нашае багатае рэлігійнае жыццё.

Кожны дзень на вандроўцы праведзены быў цікава і карысна. Былі гэта багатыя пяць дзён на беларускай культурнай ніве. Вандроўка „Жывога слова” паказала, што такая форма культурнай дзейнасці патрэбная. Варта стварыць у будучыні пастаянны вандроўны беларускі тэатр на Беласточчыне. Дзеля гэтага звяртаюся да ўсіх ахвотных, якія маглі б займацца сцэнічнай самадзейнасцю на беларускай мове ў Беластоку, а перад усім да моладзі сярэдніх школ і студэнтаў. **Запрашаю ў клуб БГКТ на вул. Варшаўскай 11, у кожны аўторак у гадзінах 17.00—20.00. Супольна пастараемся нешта цікавае стварыць.**

**ЯН МОРДАНЬ**



**І БУДЗЕ ХРАМ**

*Гэтай падзеі чакалі даўно. Даўно ўжо ішла гаворка аб тым, каб у Ваўкавыску пабудаваць новую царкву. І вось нарэшце...*

*У сувязі з гэтай падзеяй старажытны Ваўкавыск наведаў мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі Філарэт (на здымку). Ён высвяціў месца, дзе будзе пабудаваны новы храм у гонар і памяць святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.*

*Тэкст і фота Яўгена Барэля*

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**18-02-1988 г.**

На пасяджэнні Канвэнта — выступіў у дыскусіі, палемізуючы з дакладам Сэрчыка, з той яго часткай, у якой гаворыць ён пра патрэбы беларусаў Беласточчыны (паўтараючы сказанае ў пятым нумары тыдн. „Odrodzenie”, а таксама на езуіцкай сесіі ў Лодзі, у кастрычн.). Па-праўдзе, толькі зачытаў я тэкст выступлення Яраслава 25 кастрычніка на той лодзінскай сесіі (дэвастацыя беларускіх назваў), дадаўшы да гэтага важнейшыя думкі Мікалая, фармуляваныя ім у пісьме ад 23 студзеня ў „Палітыку” як рэпліку Тамашэўскаму на ягонае выступленне ў трэцім нумары г. часопіса (прамаўчаў матыў прыват. беларускага выдавецтва). Старшыні ВРН Шаматовічу перадаў дэталёвую распрацоўку Яраслававую наконт тае ж дэвастацыі, дзеля рэагавання.

Гвалт выбухнуў несусветны! Накінуўся на мяне сумна небезвядомы Сідорскі, на польска-патрыятычнай ноце абразы на гэтае маё дамаганне двухмоўя. Прыемна здзівіўся я, калі з доўгага шэрагу наступных дыскутуючых усяго двух падтрымалі яго, прытым кампраметуюча прымітыўна — тыпу „Polska dla Polaków” — а некаторыя нават абурыліся на Сідор. (Zdzieniecki).

І хаця я не клапаціўся пра сваю дыпламатычнасць, абараняць сваё не аказалася патрэбным. Дзве-тры мае рэплікі цалкавіта паказалі нелагічнасць у апанентаў. У канцы пасяджэння Сідорскі папрасіў яшчэ раз даць яму голас; апраўдваўся, што Канвэнт памылкова зразумеў яго...

Гэтая перамога, вядома, практычных вынікаў не дасць, але добры гэта пачатак высвяванню пытання.

**21-02-1988 г.**

Тыдзень назад паслаў у Аддзел культуры ЦК КПБ пратэст свой супроць дыскрымінацыйнага недапушчэння артыкула пра маю творчасць у пяты том „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі”. Дапаможа гэта, ці не, але трэба не пагаджацца. Тым больш, што ёсць чым абараняцца (інтэрв'ю ў „Trybunie Ludu”, рэцэнзія з „Polityki”, і інш.).

„Białoruś, Białoruś” робіць фурор у Гродне і ў Мінску, у асяроддзі патрыятычнай моладзі. Як погалас ідзе — шмат гаворкі пра кніжку ў час сходаў усіх тых нефармальных групаў. Відаць, у выніку такіх настрояў перапынена Ткачова ў Кузьніцы...

(...)

**5 сакавіка 1988 г.**

Учора вярнуліся — я з Таняй — з доўгае дарогі (23 лютага — 4 сакавіка). Накшталт літаратурнага турнэ па захадзе Польшчы (пераважна — у сувязі з кн. „Białoruś, Białoruś”). Пачатак — 24 лютага — у Быдгашчы, у журналісцкім клубе „Pod Sielanką”, у якім арганізаваў сустрэчу Бачыярэлі з рэд. „Fakty” (вельмі намаўляў мяне потым, каб я пакінуў пісаць па-беларуску). Публіка ў большасці з рэпатрыянтаў. Пытанні да мяне на ўзроўні мала сарыентаваных у беларускай праблематыцы. Удзень — даў інтэрв'ю тут. газеце; можа быць, змесцяць. 25 — 29 лютага ў Карпачы: III Biesiada Literacka „Pod Śnieżką” (арганізатар: Аліцыя Янкоўская, тая ж што была некалі маім шэфам у Беластоку, і ўжо дзесяты год кар'ерыць тамака). Давялося мне быць у журы. 27-га меў я свой літаратурны вечар, які — на маё здзіўленне! — пераўтварыўся ў дэманстрацыю беларушчыны: прасілі пачытаць і па-беларуску, і аб'явіўся беларускі паэт з пакалення рэпатрыянтаў, Станіслаў Дашкевіч, які прадэкламаваў свае даўнія вершы на бел. мове (часоў наднёманскай маладосці; жыве ў Сякерчыне к/Яленяй Гары). 29-га лютага — у Вроцлаве (да раніцы 03-га). Жылі ў кватэры Міколы Іванава (няблага акліматызаваўся; выкладае ва універсітэце). Увечары — сустрэча ў нейкім „салідарніцкім” касцёле, анімаваная вядомым тут Краснадэмбскім (пан з Заходняй Беларусі). Аўдыторыя наогул выпадковая. Гаварыць пра Беларусь было даволі цяжка, як пра нешта незразумелае. Затое ж заўтра адбылася надзвычай удаяая гутарка мая і дыскусія ва універсітэце; сыйшлося мноства інтэлігентных людзей, нямала чытачоў „Białorusi, Białorusi”. Напуджаны ўсім гэтым афіцыйнік з Гістарычнага таварыства перапыніў імпрэзу на яе трэцяй гадзіне... 2-га сакавіка — у Клубе каталіцкай інтэлігенцыі (ізноў за справай пахадзіў Краснадэмбскі; ён — раней — наведаў мяне ў Беластоку, дзеля арг. узгадненняў). Было б цалкам цікава, калі б не пару старых нуднікаў... У Познань прыехалі трэцяга, чакаў нас на вакзале А. Радкэ. У 17.00 сустрэча ва універсітэце (Koło Socjologii Narodu). Надта жывая! Некаторыя ўжо чулі мяне на той сесіі ў Лодзі. — Усюды напакідаў я „Archiŭny sšytak”.

Выезд быў патрэбны, але і крайне ўтомны: тэма Беларусі — трагічная тэма!

Спрабую напісаць рэпартаж у „Ніву”. Ёсць аб чым, ёсць дэталі, якія будуюць наш дух. Я баяўся, што гэтыя дзесяць дзён на захадзе Польшчы будуць марнымі.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Канвэнта — Konwent Konsultacyjny przy Przewodniczacym Wojewódzkiej Rady Narodowej w Białymstoku.*

*— думкі Мікалая — Мікола Давідзюк, вядомы беларускі мастак, дацэнт лодзінскай Школы мастацтваў.*

*— Тамашэўскаму — Ежы Тамашэўскі, прафесар Варшаўскага універсітэта; абаронца нацыянальных меншасцяў.*

*— небезвядомы Сідорскі — Дыянізы Сідорскі, галоўны рэдактар беластоцкага часопіса „Кантрасты”.*

*— ЦК КПБ — Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі.*

*— Аліцыя Янкоўская — былы дырэктар Культурна-асветнай парадні ў Беластоку.*

*— Іванава — Мікола Іваноў, беларускі гісторык з Менску, які пераехаў жыць у Вроцлаў.*

# БЕРАСЦЕЙСКАЯ УНІЯ 1596

( Працяг са стар. 1 )

**Р. Сасна:** Палітыка езуітаў, накіраваная на пераход праваслаўнага насельніцтва ў рымска-каталіцкае веравызнанне, была недаспадобы сялянству і ніжэйшаму праваслаўнаму духавенству, якое было выхавана ў іншым духу. У сувязі з гэтым у канцы XVI стагоддзя перамагае іншая ідэя уніі — ідэя кампрамісу ў справе абраду. Праяўляецца яна ў публікацыях каталіцкіх пісьменнікаў і публіцыстаў, якія не бачылі асаблівых цяжкасцяў адносна ўз'яднання цэркваў у дагматычнай сферы, калі пакінуць за Праваслаўнаю царквою свабоду абраду. Частка каталіцкіх пісьменнікаў бачыла унію як паратунак ад пратэстантызму, дадаткова ставілі яны націск на карысці, якія вынікалі б з рэлігійнай еднасці для ўзмацнення Рэчыпаспалітай. Фактычна публіцысты бачылі унію не як форму ўз'яднання веравызнанняў, а як пераходную форму на шляху да лацінскага каталіцызму.

*— Езуіты ў сваім імкненні да уніі намагаліся займець уплыў на апекуноў праваслаўя, адным з якіх быў у гэты час князь Канстанцін Астрожскі?..*

**Р. Сасна:** Канстанцін Астрожскі акрамя таго, што сапраўды быў вялікім мецэнасам праваслаўя, падтрымліваў лучнасць з канстанцінопальскім патрыярхам Ерэміяй. Езуіты імкнуліся за пасрэдніцтвам князя Астрожскага схіліць патрыярха да Каталіцкага касцёла і да ідэі ўвядзення сярод праваслаўных новага календара. Гарачым прапагандыстам езуіцкіх ідэяў быў Пётр Скарга, які прысвяціў князю Астрожскаму першае выданне сваёй працы „Аб еднасці Божага касцёла", разлічваючы, што схілуўшы да ідэі уніі чалавека такога значэння, запэўніць гэтым самым перамогу для самое ідэі. Князь Астрожскі ў прынцыпе не быў супроць уніі, аднак неабходным лічыў згоду ўсходніх патрыярхаў, згоду маскоўскага цара ды ўдакладненне ўсіх розніц паміж абедзвюма Цэрквамі.

*— Супроць уніяцкіх тэндэнцый у вышэйшых сферах праваслаўнага духавенства выступаюць праваслаўныя брацтвы.*

**Р. Сасна:** У XVI стагоддзі было нямала фактараў, якія спрыялі дзейнасці езуітаў — эгаізм і неадпаведныя паводзіны шмат якіх епіскапаў, пераход у каталіцтва магутных шляхецкіх сем'яў. Усё гэта паслабляла Праваслаўную царкву. І вось на арэну ўваходзяць праваслаўныя брацтвы, якія гуртуюць перад усім мяшчанскія асяроддзі. Змаганне з пратэстантызмам і каталіцызмам прыдае брацтвам чыста рэлігійны характар. У перыядзе, які непасрэдна папярэджвае яўныя перамовы наконт уніі, брацтвы дзейнічаюць у трох кірунках: засноўваюць школы, друкарні, бальніцы ды будуюць цэрквы і манастыры, змагаюцца за аўтаномію і з неабмежаванай уладай епіскапаў, бароняць свой аўтарытэт і маёмасць перад нападамі з боку каталіцкай часткі насельніцтва гарадоў. Паступовa брацтвы становяцца галоўнай сілай у змаганні з уніяцкімі тэндэнцыямі.

*— Якія падзеі ў жыцці Праваслаўнай царквы папярэдзілі акт Берасцейскай уніі?*

**Р. Сасна:** У 1590 годзе ў Брэсці быў скліканы сабор, які меў навесці парадак у Праваслаўнай царкве. Пастановы гэтага сабору не толькі не навялі парадку, але выклікалі яшчэ большы хаос. Вырашана, што саборы трэба праводзіць штогод. На саборы ў 1591 годзе ягоны кіраўнік Кірыл Тарлецкі склаў ліст каралю, які акрамя яго падпісалі епіскапы львоўскі, пінскі, холмскі. Было гэта першае афіцыйнае прыступленне да уніі некаторых праваслаўных епіскапаў. Яшчэ ў гэтым самым годзе кароль падтрымаў епіскапаў сваім лістам, у якім гарантаваў рэлігійныя свабоды ўсім, хто прыступіў да уніі. Справы пайшлі яшчэ далей у 1593 годзе, калі уладзімірскім епіскапам стаў Іпаці Пацей. Звярнуўся да яго сам Канстанцін Астрожскі, апора праваслаўя, наказваючы на ўпадак Царквы ды заклікаючы да паяднання з Рымам. У снежні 1595 года Кірыл Тарлецкі і Іпаці Пацей на аўдыенцыі ў Папы прысягнулі унію, захоўваючы абрад і мову літургіі. Афіцыйнае абвяшчэнне уніі наступіла на саборы ў Брэсці 9 кастрычніка 1596 года (стары стыль). Вось такі быў канец каталіцкіх стаDAнняў накінуць праваслаўным унію. Пачынаўся перыяд падзелу і праследаванняў. Сілаю накінутая унія павялічыла варожасць праваслаўных да Польшчы і польскасці. Праціўнікі уніі, якія з ёю змагаліся, гэтым самым баранілі сваю культуру ды яе адметнасць.

*— Дзякую за размову.*

Запісаў

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**



****************************************

# УЛАДЗІМЕЖ ЦІМАШЭВІЧ: Я ПАЛЯК

Прайшлі ўжо парламенцкія выбары, скончылася выбарчая кампанія, якая вялася на розныя спосабы, не раз мала тактоўна і беспардонна. Найбольш пераканаўчымі для выбаршчыкаў былі сустрэчы з кандыдатамі, калі можна пабачыць чалавека, паслухаць яго, паставіць пытанне.

Самым папулярным палітыкам, без сумлеву, у нашым рэгіёне з'яўляецца Уладзімеж Цімашэвіч. Залы пад час сустрэчаў з ім заўсёды запоўнены па брагі. Так было і ў Бельскім доме культуры, дзе У. Цімашэвіч і яго калегі са спіска дэмакратычных левых сіл выступілі 30-га верасня. У іх выступленнях адчувалася вялікая самаўпэўненасць, перакананне ў сваёй перамозе. Зала поўнасцю падтрымоўвала прамаўляючых, раз-пораз успыхвалі воплескі, а некалькі крытычных галасоў патанулі ў свістах. У зале амаль не было маладых, большасць гэта пенсіянеры і беспрацоўныя. Пасля сустрэчы ўдалося мне праравацца праз натоўп, які ўсё яшчэ акружаў пасла Цімашэвіча, і паставіць яму некалькі пытанняў. Вось змест тае кароткае гутаркі:

Пытаю: *— У Бельску Вы невыпадкова, у час прэзідэнцкіх выбараў атрымалі Вы тут рашучую перамогу. На гэтай тэрыторыі, дзе пражывае вялікі працэнт беларусаў, за галасы выбаршчыкаў будзеце змагацца з Беларускім выбарчым камітэтам. Ці не было якіхсьці спробаў супрацоўніцтва, можа нават зблакавання спіскаў?*

**УЛАДЗІМЕЖ ЦІМАШЭВІЧ:** — Па-першае, у Бельску я сапраўды невыпадкова, гэта ж мая старая выбарчая акруга, не Беласток і тым больш не Сувалкі. Калі б у мяне было больш часу, я павінен спаткацца з большай колькасцю людзей, якія выбралі ж мяне ў Сейм у 1989 г, і скласці ім справаздачу са свае пасольскае дзейнасці — гэтага патрабуе сумленнасць. Па-другое, я свядомы таго, якую падтрымку далі мне жыхары гэтай часткі Беласточчыны, незалежна ад таго, беларусы ці не. Няма патрэбы скрываць, што і ў сёлетніх выбарах стараюся здабыць іх галасы. За гэтыя самыя галасы будуць змагацца людзі са спіска Беларускага выбарчага камітэта, але ёсць жа і спісак Выбарчага камітэта праваслаўных. Значыць, прынамсі дзве выбарчыя ініцыятывы, якія разлічваюць на тыя ж самыя галасы, што і я. Магу сказаць так: прыкра мне, што не ўтварылася адна моцная рэпрэзентацыя, якая адстойвала б інтарэсы гэтай часткі ваяводства і гэтага насельніцтва, але гэта натуральны рэзультат пэўных нацыянальных і рэлігійных працэсаў.

Для мяне важнае адно — гавару адкрыта да ўсіх, хто прачытае гэты тэкст, — каб не дайшло да сварак паміж левымі сіламі і іншымі палітычнымі плынямі, напрыклад, беларускай або праваслаўнай. Незалежна ад таго, хто з нас будзе ў Сейме, павінен дбаць пра ўсходнюю Беласточчыну і яе жыхароў. Я жадаю як найлепш кандыдатам Беларускага выбарчага камітэта і Выбарчага камітэта праваслаўных, маю надзею, што і мне ўдасца трапіць у Сейм, калі не з акругі, дык з агульнапольскага нашага спіска, дзе я на першым месцы. Дрэнна сталася б, калі б мы пасправаліся паміж сабою ў ходзе выбарчай кампаніі і гэтыя спрэчкі засталіся пасля выбараў.

Ці прабавалі мы блакаваць спіскі кандыдатаў? З БВК не, бо я ўжо раней атрымліваў сігналы пра непрыхільнае стаўленне да маёй асобы асяроддзя, звязанага з беларускім камітэтам. Усур'ёз разглядалі мы магчымасць саюза з камітэтам праваслаўных, але, як казаў мне пасол Чыквін, і ў яго асяроддзі не было дастатковай прыхільнасці да нас. Шчыра гаворачы, маю ўражанне, што ў нас большыя шанцы на атрыманне пасольскага мандата — у беластоцка-сувальскай акрузе мільённае насельніцтва і толькі дзвесце з нечым тысяч людзей беларускага паходжання.

*— Ці ёсць нейкія канкрэтныя прадпасылкі будучых сварак? Бо я маю ўражанне, што праграмы гэтых камітэтаў вельмі падобныя: развіццё сельскай гаспадаркі, пабудова пераапрацоўчай інфраструктуры, кантакты рэгіёна з Беларуссю і г.д.*

— Па-мойму, няма ніякіх. Мы ўсе павінны рабіць як найбольш дзеля гаспадарчага ажыўлення Беласточчыны. Калі б ужо надта дакладна аналізаваць праграмы, магчыма, што выявілася б розніца паміж маімі поглядамі і крыху нацыяналістычным становішчам беларускага асяроддзя. Але, калі глянуць шырэй, вельмі многа ў нас супольнага. Сам рассудак наказвае супрацоўніцтва з Беларуссю. Я лічу, што дэмакратычная дзяржава гэта дзяржава, якая гарантуе поўныя правы меншасцям (любым). Я за тое, каб Польшча бараніла правы польскай меншасці па-за межамі, але ў ніякім выпадку нельга гэта спалучаць з узаемнасцю ў дачыненнях да сваіх грамадзян няпольскай нацыянальнасці. Ёсць такія маральныя абавязацельствы, якія не залежаць ад таго, ці нехта другі выконвае іх у адносінах да нас, ці не. Нават калі б нас не здавальняла трактоўка польскай меншасці ў Літве ці ў Беларусі, гэта не прычына, каб таксама трактаваць літоўскую ці беларускую меншасць у нас. Мы павінны даваць прыклад цывілізаванага спосабу развязкі праблемаў такога тыпу.

*— На ўсходняй Беласточчыне гавораць, што Вы праваслаўны ці беларус. Такія меркаванні сталі асабліва частымі пасля Вашай прысутнасці ў саборы св. Мікалая пад час візіту рымскага папы ў Беласток. Як Вы аднясецеся да гэтых плётак?*

— Людзі, якія тут жывуць, ведаюць лепш за іншых, што сямейныя і нацыянальныя стасункі на гэтай зямлі вельмі заблытаныя. Я сапраўды нарадзіўся ў мешанай сям'і. Да сённяшняга дня сваякі майго бацькі жывуць пад Ваўкавыскам і на Гродзеншчыне, яны праваслаўныя, лічаць сябе беларусамі. Але я нарадзіўся і гадаваўся ў Варшаве, вырас у польскай культуры, лічу сябе палякам. Па-беларуску нават гаварыць не патраплю, хаця мову разумею.

У царкве быў я не таму, што ў мяне такія ці іншыя сямейныя або рэлігійныя карані. Запрасіў мяне архіепіскап Сава і лічу я гэта вялікім гонарам. Я ўдзельнічаў у вялікай падзеі, спадзяваўся, што дае яна вялікі шанц для большага зразумення паміж палякамі і беларусамі. Таму я менавіта быў у царкве. Зрэшты, праз два дні пасля гэтага прыняў я ўдзел у спатканні з папам у Каралеўскім замку ў Варшаве.

*— Дзякую Вам за размову.*

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ЯК ТУТ ЖЫЦЬ?

**Гавораць гаспадары з Крынак.**

**Міхал Анісімовіч:** Мы жывем ціпер з дня на дзень і бачым, што да горшаго ў нас даходзіць. Усё гэта, што калісь адбывалася добро, то цяперака наадварот, найшло ўсё дадолу.

**Яўген Дуброўскі:** Я гаспадар, маю чтарнаццаць гектараў зямлі, два трактары, самаход „малюха", усе машыны апроч камбайна. Трымаў авечкі, кароў меў дзевяць штук, трое коней. От коні, яны непаплатныя, але заўша якісь грош у гаспадарцы, як трэба — дзе запрог, паехаў, калі завее ці сёе-тое. Але яшчэ такога часу не было як ціпер, і не помню, каб гаварылі нават нашыя бацьке. За жыдамі, за пшэдваенною Польшчаю, калі куплялі збожжа, то жыд нават даваў грошы напярод. А ціпер хоць у рэчку вязі. У мяне самога яшчэ сем тон ячменю з тога року ляжыць у засеку, то засыпаў новым. І жывіну маю, але ціпер усе гэты бараны пазводжу, бо і воўна не аплачваецца, скуры не аплачваюцца, ніц не аплачваецца! За што грошы браць? А жыць жа трэба і надатак трэба заплаціць, і за святло, і за тэлевізар, і за радыё.

Казаў Валэнса калісь, што тут будзе нова, эта, Японія, а тут мы не да Японії ідзем, мы нават не ідзем, мы рачкуем. За камуністамі мы жылі, што каб усе так жылі, а ціпер гэтыя, каторыя з „Салідарнасці", гаворaць, што камуна давяла. Не, камуна іх павывучала, бо яны ўсе малакасосы, і як яны давялі, да чаго? Раней усе заклады ішлі, усюды бралі і воўну, і малако, і скуры, і плацілі за гэто. Тады за чтэры літры малака мог я купіць мэтар навозаў, а цяперака нават пачак цукерак, гэтых ляндрынак не купіш! За літар малака бутэльку „крынкі" можна купіць, а на літар малака трэба ж тры бутэлькі гэтай вады.

**Міхал Анісімовіч:** Я прадаў мэтар збожжа і для траіх дзяцей купіў на лёдзі ўсяго.

**Яўген Дуброўскі:** І кажуць, што камуна да гэтага давяла, а хто ў камуне быў, як не яны? Хто іх вучыў, за што яны вывучыліся, а ціпер мы ня давядуць да голаду, як мне адзін стары чалавек казаў, шчэ будзя голад, а ўтэды будзя вайна, вайна неізбежна. А па вайне хто застанецца, той будзя жыць, але чалавек за следам другога чалавека будзе ісці сто кілямэтры. І будзе пытацца, дзе ты быў, чым жывіўса, то адзін другому будзе казаць, што карэньмі, а ў пяшчарах начаваў. Таксама і гэта.

І кажуць, да Японії давялі! Нас да згіноты давялі, а не да Японії. Я лепей пажондзіў бы, як усе гэты цэлыя начальнікі — для рольніка даў бы якісь збыт, каб рольнік прадукаваў, а



вывучым сваіх дзяцей, будуць каровы пасвіць, толькі ня будзе ў каго! Калісь на нашай вуліцы было пяць стадаў кароў па пятнаццаць штук. Я сам пасвіў кароў і з працы рук нажыўся, бо ў чтэры рокі астаўся без матулі, пры мачысе. Але пажыў, што трэба. А цяперака ўсё трэба знішчыць, бо такая іхняя праграма.

Хто цяперака жондзіць? Касцёлы жондзяць і што яны скажуць, тое робіцца. Калісьці таксама, як царэ жондзілі, людзі ішлі да споведзі, а пасля за гэто, што сказаў пад сакрэтам, заключалі ў крымінал і на тайгу вязлі, кавалі і заставлялі рабіць як дзікія аслы. І да гэтага ціпер донжаць.

У нас быў ПГР, такі шмат зямлі, такі даробак, і ўсё знішчылі. А далёка мы заедзем без зямлі? За пару лет то пазамыкалі і пэгээры, і шмэгээры, ціпер лічаць на „спулкі", як яны кажуць. Ужэ ў пас за камуны былі спулкі, прыязджалі асядленцы, бралі крэдыты дармовыя, дэтацыі для іх давалі. Дзе яны, тыя з Польшчы ціпер дзеліся, дзе яны? Панажывалі толькі капітал, такія валацугі, такія пшыблэнды, і паехалі мільянерамі, а з чым мы асталіся? Ходзім па гаўне каровячым па калені і ні халеры з гэтага ня маем. І як жыць, і што рабіць?

**Міхал Анісімовіч:** У мяне гаспадарка — дваццаць два гектары. Я за камуны цэлу гаспадарку ўтрымоўваў, падаткі аплачваў, машыны ўсе пакупляў і за рок часу хату набудаваў, а ціпер выканчыць не дам рады. Не бяруць збожжа, а калі бяруць — плаціць знікомыя грошы, тылько так, што трэба дакладацца да гэтага ўсяго. І скуль браць гэта, каб дакладацца, і падаткі аплачваць да жонду, бо як не аплаціш, то зараз табе саквестратара прышлюць. Трэба на дадатковыя работы ісці, зарабляць яшчэ. Дваццацьгектаровы гаспадар каб ня вытрымаў гаспадаркі свае, і свае радзіны каб ня вытрымаў?! Ідзе да горшага, і, як казаў сусед, усё знішчыцца, а мы застанемся жабракамі тылько ў гэтум панстве.

**Яўген Дуброўскі:** Я меў пяцьдзесят бараноў з вясны, а ціпер аставіў тылько дваццаць, і гэтыя ліквідую. То даю дачцэ кавалак мяса, то сынаві даю, бо на безработным ён, звольнілі з ПГРу ціпер. Дзяўчыну ўжэ звольнілі раней, на „куранёўку" пашла; дачка замужняя, зяць нідзе ня робіць, хату началі будаваць і не дадуць рады паставіць, бо няма за што. Ён ня робіць, яна ўжэ ня будзе, маюць усяго 70 сотых зямлі, і з чаго тут жыць? То што, будуць есці картоплі разам са мною, бо я сваіх дзіцей не адкіну. А адзін сын вучыцца ў Супраслі ў завадовай школе, на механізацыі ральніцтва. Думаў сабе, хлопцы вучацца, узяў і дакупіў яшчэ 80 сотых зямлі, думаў, можа камбайна куплю. Каб чырвоныя жондзілі, можа і купіў бы, а так і гэта, што ест, усё кіну, усё пакіну. Я ня быў чырвоны і да жаднае партыі не належаў, не належу і не хачу належыць! Але жыць трэба і нам можа быць чырвоны, чорны, рабы, абы тылько мондры гаспадар жондзіў, каб ад нас бралі, каб мы гадавалі, бо мы на гэта ест. Кажды жые і кажды працуе, бо без працы няма жыцця. Але скуль будзеш рабіць, як хэнці няма нават да гэтай работы, бо ўсё вяжуць рукі!

Запісаў

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**Фота аўтара**

***




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 49 —

Пад уплывам найвышэйшай Беларускай Рады ўзнік Беларускі дзяржаўны камітэт як галоўная палітычная ўстанова, якую падтрымлівалі многія групы і якая імкнулася да кансалідацыі ўсяго беларускага руху.

Дзяржаўны камітэт дзейнічаў пакуль што ў канспірацыі. Меў ён, несумненна, антыліітоўска-нямецкі характар і заставаўся ў пастаянным кантакце з Польшчай. Роля камітэта ў выяўленні нямецкага кіраўніцтва ва „Урадзе Ластоўскага" была так эфектнай, што ў значай ступені надарвала несумненны ўплыў Ластоўскага. Ластоўскі стараўся нават увайсці ў кантакт з Дзяржаўным камітэтам, не выключаючы паднарадкавання камітэту.

Склад Дзяржаўнага камітэта быў у 1921 годзе наступны:

старшыня — Антон Луцкевіч
намеснік старшыні — Ладноў
сакратар — Тарашкевіч
скарбнік — Дубейкоўскі
члены: ксёндз Адам Станкевіч, Гарэцкі, Рак-Міхайлоўскі, Смоліч, Буцько.

Пачаткова ў склад Дзяржаўнага камітэта не ўваходзілі эсэры, але канферэнцыі, якія вяліся з Пракулевічам і Заўрыдам, прывялі да станоўчых вынікаў.

У абсягу ўплываў Дзяржаўнага камітэта знаходзіўся таксама і ген. Станіслаў Балаховіч.

Інтэнсіўную дзейнасць развівалі беларускія камуністы на чале з Русецкім. Летам 1921 ґ. далучыўся да іх Кузьма Тэрэшчанка.

Легальнай агендай камуністаў быў Саюз сельскай гаспадаркі. Утрымлівалі яны пастаянны кантакт з камуністамі ў Мінску, а менавіта з Адамовічам, камісарам па вайсковых справах. У паразуменні з Мінскам беларускія камуністы падрыхтаваліся да дзейнпяў на выпадак ваеннага канфлікту паміж Польшчай і Савецкай Расіяй.

Апрача ўжо названых арганізацый узнік у кастрычніку 1920 года ў Вільні эсэраўскі Раённы камітэт, у які ўвайшлі: Дубіна, Якубецкі, Карабач, Крэчэўскі, Міхалевіч, Пракулевіч, Родзевіч, Шыла, Тэрэшчанка, Заўрыд. Камітэт гэты быў віленскім цэнтрам эсэраўскай агітацыі на ўсе беларускія крэсы, а таксама як бы экспазітурай урада Ластоўскага і сувязным паміж Коўнам і Мінскам.

Да Раённага камітэта з часам прыступілі (пасля ўпадку Дзяржаўнага камітэта) Луцкевіч, Лаўрыновіч, Светагор-Сцепін, Мятла і інш.

З Мінска са спецыяльнымі паўнамоцтвамі прыязджала Бадунова, якая імкнулася, між іншым, да стварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў этнаграфічных межах.

Апрача гэтых арганізацый наймацнейшай была Краёвая Сувязь Паўла Алексюка. Паслугоўвалася яна крайне паланафільскімі заклікамі і мела вельмі малыя ўплывы ў беларускім грамадстве.

Нямала прычынілася да гэтага паўсюдная характарыстыка Алексюка як дзеяча прадажнага, як спекулянта, а нават злодзея.

Органам гэтай групы быў часопіс „Еднасць".

**(Працяг будзе.)**

## НАША ПОШТА

**Паважаная Рэдакцыя!**

Звяртаюся да Вас з просьбай знайсці людзей, след якіх страціў я з часоў вайны. А жылі яны ў пасёлку Свіслач, што цяпер у Рэспубліцы Беларусь.

Прозвішчы іх наступныя: Стасечак Казімір (нараджэнне прыблізна 1913—15 г.г.) і Ядвіга Пятроўна Баран (дзявочае прозвішча).

А вось які іх лёс. У 1943 годзе фашысты западозрылі жонку Казіміра Марыю Пятроўну ў сувязях з партызанамі і закатавалі яе, заставіўшы на руках бацькі 8-месячнае дзіця. Летам 1944 года, пасля вызвалення Свіслачы і другіх пушчанскіх населеных пунктаў, Стасечак Казімір з дзіцём і сярэдняй сястрой жонкі Ядвігай падаліся ў Польшчу. Дзе яны цяпер, мне невядома, але як мне хацелася б знайсці след гэтых людзей і запрасіць да сябе ў госці. Мне здаецца, што яны павінны пасяліцца ў Беластоцкім ваяводстве. Хто ведае што-небудзь аб іх лёсе, прашу адгукнуцца па адрасу: **225063 Рэспубліка Беларусь, Брэсцкая вобл., Камянецкі р-н, п.а. Камянюкі, Гіндзюк Мікалай Фёдаравіч.**

# НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ў 1991-92 г.

/СТАТЫСТЫЧНАЯ ДАВЕДКА/

Паводле афіцыйнай статыстыкі, у бягучым 1991/92 г. агульная колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых і сярэдніх школах Беласточчыны, складае 3508 у параўнанні з 3677 у папярэднім годзе (-169).

Колькасць навучэнцаў у ліцэях з беларускай мовай навучання (у дужках дадзеныя за папярэдні год) складае 630 (644), у тым ліку ў Бельскім ліцэі 359 (369) і ў Гайнаўскім 271 (275).

З восені 1991 г. спынілася навучанне беларускай мовы ў Мілейчыцах і Паўлах. Такім чынам гэты прадмет зараз навучаецца ў 44 пачатковых школах і 2 філіяльных пунктах.

Агульная колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых школах, у 1991/92 г. складае 2878, што на 155 вучняў менш, чым у папярэднім годзе (3033). Становішча ў паасобных школах прадстаўлена ў табліцы, у якой у рубрыцы „А" паказана абсалютная колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, і ў рубрыцы „Б" — іх удзел (у працэнтах) у агульнай колькасці вучняў данай школы без першага класа.

Абсалютная колькасць навучэнцаў выразна павялічылася толькі ў Бельскай школе н-р 3 (+47), Старым Ляўкове (+8), Аўгустове (+5). У пераважнай частцы астатніх школ іх колькасць зменшылася.

Працэнтны паказчык стану навучання (рубрыка „Б") палепшыўся ў 10 школах, не змяніўся ў 5 школах, а ў 31 школе пагоршыўся. Сярод апошніх на ўвагу заслугоўваюць усе тры школы ў Гайнаўцы і школы ў большых пасёлках (Гарадок, Чаромха, Нарва, Нараўка, Кляшчэлі), у якіх навучанне беларускай мовы практычна апынулася на парозе ліквідацыі.

**Навучанне беларускай мовы ў пачатковых школах**

| | 1990/91 | | 1991/92 | |
|---|---|---|---|---|
| | А | Б | А | Б |
| Бельск н-р 3 | 865 | 100,0 | 912 | 100,0 |
| Ласінка | 63 | 100,0 | 61 | 100,0 |
| Стары Корнін | 46 | 97,9 | 41 | 100,0 |
| Пашкоўшчына | 50 | 100,0 | 38 | 100,0 |
| Клейнікі | 111 | 97,4 | 102 | 99,0 |
| Пасынкі | 41 | 100,0 | 39 | 97,5 |
| Новы Корнін | 36 | 97,3 | 31 | 96,9 |
| Дубічы -Царкоўныя | 96 | 96,0 | 80 | 94,1 |
| Маліннікі | 4 | 93,3 | 85 | 92,3 |
| Курашава | 41 | 95,3 | 38 | 90,5 |
| Орля | 204 | 89,9 | 192 | 86,9 |
| Арэшкава | 76 | 84,4 | 77 | 86,5 |
| Дубяжын | 40 | 87,0 | 35 | 85,4 |
| Чыжы | 150 | 84,3 | 145 | 84,3 |
| Ляшукі | 33 | 84,6 | 31 | 83,8 |
| Грабавец | 39 | 90,7 | 36 | 81,8 |
| Дубіны | 125 | 81,2 | 124 | 80,0 |
| Махнатае | 59 | 86,8 | 54 | 79,4 |
| Палічная | 38 | 70,4 | 41 | 78,8 |
| Семяноўка | 4 | 81,8 | 52 | 74,3 |
| Дашы | 39 | 76,5 | 35 | 71,4 |
| Новае Беразова | 56 | 74,7 | 55 | 70,5 |
| Храбалы | 77 | 65,8 | 74 | 64,9 |
| Рагачы | 21 | 47,7 | 17 | 60,7 |
| Трасцянка | 41 | 63,1 | 35 | 59,3 |
| Залукі | 26 | 56,5 | 28 | 58,3 |
| Нурэц | 36 | 55,4 | 32 | 56,1 |
| Сакі | 39 | 60,9 | 27 | 50,0 |
| Крывец | 25 | 53,2 | 21 | 42,9 |
| Краснае Сяло | 25 | 41,7 | 23 | 42,6 |
| Малешы | 16 | 51,6 | 11 | 35,5 |
| Рыбалы | 34 | 3 7,4 | 30 | 33,0 |
| Старое Ляўкова | 38 | 26,8 | 46 | 31,9 |
| Гайнаўка н-р 3 | 43 | 22,5 | 31 | 16,1 |
| Нараўка | 44 | 17,0 | 40 | 14,8 |
| Кляшчэлі | 34 | 17,0 | 29 | 14,5 |
| Нарва | 45 | 14,4 | 43 | 13,4 |
| Аўгустова | 10 | 8,5 | 15 | 12,7 |
| Зубры | 5 | 11,9 | 4 | 9,5 |
| Чаромха-пасёлак | 15 | 3,2 | 10 | 2,1 |
| Гайнаўка н-р 1 | 20 | 1,8 | 18 | 1,6 |
| Гайнаўка н-р 2 | 45 | 3,2 | 13 | 0,9 |
| Клюкавічы | 8 | 15,7 | 4 | 0,9 |
| Гарадок | 12 | 2,2 | 4 | 0,7 |
| Мілейчыцы | 10 | 4,2 | - | - |
| **Філіяльныя пункты** | | | | |
| Тыневічы-Вялікія | 8 | 100,0 | 9 | 100,0 |
| Чаромха-вёска | 6 | 85,7 | 10 | 100,0 |
| Паўлы | 4 | 33,3 | - | - |
| Разам | 3033 | | 2878 | |

**Увага:** папярэдняя даведка — гл. „Ніва", 30.XII.1990 г.

**(тур)**

# У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКАМ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Прыклад выкарыстання „Нівы" на ўроках роднай мовы - V клас**

**Т э м а:** Да чаго можа давесці сваволыства і неразвага?!

**М э т а ў р о к а:** пазнаёміць вучняў з тэкстам апавядання; выпрацаваць навык уважлівага чытання і слухання тэксту са зразуменнем; выхоўваць у вучняў беражлівыя адносіны да прыроды і ўсяго навакольнага.

**М а т э р ы я л д а п р а в я д з е н н я ў р о к а: „Зорка" н-р 39 з 29 верасня 1991 года — апавяданне В. Сухамлінскага „Камень".**

1. Ва ўступным слове настаўніка трэба кароценька сказаць, хто такі Сухамлінскі (украінскі педагог, які сэрца аддаў дзецям; наватар у педагогіцы і ў падыходзе да выхавання падрастаючага пакалення).

2. Выразнае чытанне апавядання настаўнікам (вучні могуць чытаць самастойна — ціхае чытанне са зразуменнем).

3. Высвятленне значэння слоў — крыніца (у прамым і пераносным значэнні) і сваволыства:

**крыніца** — *(прамое)* 1) Натуральны выхад падземных вод на паверхню зямлі; вадаём, які ўтвараецца на месцы выхаду падземных натуральных вод;
*(пераноснае)* 2) Тое, з чаго бярэцца, чэрпаецца што-небудзь; тое, што дае пачатак чаму-небудзь; служыць асновай для чаго-небудзь;

**сваволынічаць** — 1) гарэзаваць, дурэць;
2) рабіць у адпаведнасці са сваёй воляй, не зважаючы ні на што.
3) Весці сябе несур'ёзна лёгкадумна; бушаваць, буяніць.

4. Аналіз апавядання па прапанаваных настаўнікам пытаннях:
Аб чым мова ў творы? (аб крыніцы і сваволыстве хлопчыка).
Як выглядала месца, дзе **ж ы л а к р ы н і ц а**? (зялёны луг, разгалісты дуб, прыгожая песня салаўя, прыхаладнаватая крыніца, падарожныя адпачываюць пад зялёным дубам).
Чаму **к р ы н і ц а п а м е р л а**? (хлопчык, каб задаволіць сваю цікавасць кінуў камень, які закрыў выток зямлі ў крыніцы, і вада перастала напаўняць крыніцу).
Што здарылася з прыродай пасля гэтага здарэння? (засохла трава вакол крыніцы, дуб засох, замоўкла салавейкава песня, стала сумна, навокал пясок, вецер падымае хмары пылу).

5. Параўнанне прыроды перад прыходам хлопчыка і пасля многіх гадоў.

| Першапачатковая прырода | Прырода пазней |
|---|---|
| | |

6. У далейшым шукаем прычыны ў змене прыроды і супольна прыходзім да вываду, што прычына гэтага:
— сваволыства,
— прага задаволіць сваю цікавасць,
— лёгкадумнасць,
— безадказнасць,
— неразважлівасць хлопчыка.

7. У падвядзенні ўрока ставім пытанне: Чаму навучыла вас гэтае кароценькае, але вельмі змястоўнае апавяданне?

**ПРЫРОДУ ТРЭБА ШАНАВАЦЬ І БЕРАГЧЫ АД ЗНІШЧЭННЯ!**

Апрацавала
**ТАМАРА РУСАЧЫК**

************************************************




Астроне! Мне ў адну ноч прысніліся тры сны, якія мяне вельмі занепакоілі.

Першы сон быў такі, што нават і гаварыць аб ім сорам. Быццам нейкі чалавек, што стаяў насупраць мяне, прыцэліўся і кінуў у мяне каменем. Мне зрабілася не то што прыкра, але я нават разззлавалася страшэнна. Хапаю з зямлі каменні і пачынаю кідаць у гэтага чалавека, а ўсё цэльна: кожны камень трапляў у яго, а я, поўная помсты, рабіла гэта з такім азартам, што аж сама спужалася. Ваколіца была наогул прыгожая, быццам адбывалася гэта ў нейкай далёкай краіне, мо ў Італіі. Вузкія вулачкі, з навісшымі старымі балконамі са шклом. Раптам бачу: на адным балконе стаіць той жа чалавек. А я ж мушу прайсці пад гэтым балконам. Іду, а ён кідае камень у мой бок. Я накрываю галаву падушкай, якая ахоўвае мяне ад каменняў, і праходжу. На гэтым я ўжо прачнулася. Ведаю, што сон мой кепскі. Напэўна абазначае, што буду мець ворагаў, якія абкідаюць мяне каменнямі. А што ты на гэту тэму думаеш, Астроне?

**Агата**

Агата! Сон твой сведчыць аб тым, што ў тваім жыцці паявіліся нейкія перашкоды (камень, кінуты ў цябе). Ты кідала каменні ў чалавека, які пачаў першы, дык лічу, што ты была ў праве адпомсціць, бо наогул дык біць чалавека ці жывёлу ў сне абазначае нейкую страту, сум, а нават хваробу. Паколькі гэты чалавек ізноў памкнуўся на цябе з каменем, але табе ўдалося ад яго выратавацца пры дапамозе падушкі, думаю, што пераадолееш перашкоды.

**АСТРОН**

Зорка
Старонка для дзяцей

Вучнёўская творчасць

## ВОСЕНЬ

Залатая восень прыплыла
І загукала ў вароты.
Залатым лісцем сыпнула,
Хуткім ветрам дзьмухнула.

Усім дзецям гукнула,
Што ў школу ісці пара.
Пяцёркі ў школе чакаюць,
А двойкі ўцякаюць!

Зараз усё лісце ападзе.
І прыгажуня зіма завітае.
Пакуль яшчэ не прыйшла,
Восень колерамі расцвіла...

**Ілона Крупа,**
вуч. V класа бельскай „тройкі".



*Восень у садку семяноўскай школы.* **Фота М. Лукшы**

*************************************************************************

## ЖАБКІ І ЧАРАПАХА

КАЗКА



На беразе маленькага ляснога возера-балотца разгарлаліся, разышліся і наладзілі канцэрт жабы. Церушыў на іхнія галоўкі цёплы дождждык, свяціла праз яго сонца. Весела было жабкам — вось яны і спявалі.

І тут прыплыла пратокай з такога самага суседняга балотца-возера вялікая балотная Чарапаха. Жыла яна адна, пачула вясёлыя спевы і вось прыплыла, вынырнула, напалову вылезла на бераг і ўся аж зморшчылася ад асалоды. Надта добра спявалі жабкі.

— Жабкі-жабкі, дзень добры.

— А ты што за цуда-юда? — спыталі жабкі.

— Я Чарапаха.

— Бачыць такое не бачылі, чуць гэткае не чулі. Значыць, не можа цябе быць.

— Ды ёсць жа я, — сумна сказала Чарапаха. — І як жа вы добра спяваеце! Паўтарыце, калі ласка. Проста салаўі.

— Можам, — сказалі ўлешчаныя жабкі.

Ку-ма, кума
Бор-ршчык вар-рыла.

— Выдатна, — сказала Чарапаха. — Выключна.

Бур-ракі, бур-рак-кі,
Бур-ракі-кі-кі-кі-кі.

У Чарапахі — аж слёзы з вачэй, так хораша спявалі жабы.

— Жабкі-жабкі, прыміце мяне ў свой хор.

— А спяваць ты ўмееш?

— Не. Я слухаць люблю.

— Дык слухай. Здалёк. Ці прывядзі сястру, якая ўмее.

— І яна не ўмее, — сумна сказала Чарапаха. — Мы, чарапахі, спяваць не ўмеем. Голасу нам не дадзена.

— Дык нашто ты нам тады? — спыталі жабкі.

— А слухаць вас хто будзе? Хваліць?

— Нас і так усе чуюць. І ўсе хваляць.

— Ну і я ціхенька сядзела б ды хваліла, — сказала добрая і разумная Чарапаха.

— Дык ты, можа, яшчэ нешта ўмееш? — спытала Галоўная Жаба ў хоры, якая аж дзьмулася ад важнасці.

— Плаваць я ўмею. Ныраць.

— Гэта й мы ўмеем. А скакаць умееш?

— Не, — уздыхнула Чарапаха.

— Нічога ты не ўмееш... А мы яшчэ нясем ікру. Жабурыппе.

— Я замест яе яйкі нясу, — сказала Чарапаха. — Вялікія.

— Ф-фу, — сказала Галоўная, — яйкі... Ну, паспрабуй усё ж заспяваць.

І Чарапаха зарыпела:

Свеціць месячык з гары
На глыбокія віры.
На шчытах у чарапах
Сіняе святло гарыць.

— Словы нішто сабе, — сказалі жабы, — але ж голас? Бр-р-р!

— Дык я б вам — словы, а вы б — спявалі.

— Словы ў нас не горшыя. Самі прыдумалі:

Што вар-рыла, кум-ма, кум-ма?
Боршч, бор-ршч, бур-ракі.

— Добрыя словы, — сказала Чарапаха, — але галасы ў вас лепшыя.

— І што гэта за „шчыты ў чарапах"? — спыталася Галоўная Жаба.

— Вось тое, што на мне.

— Гэта карычневае? — усхваляваліся жабы. — Гэта брыдкае? Ну не. Мы вось такія прыгожыя. Зялёныя. Бліскучыя. Як лакіраваныя.

— Жывыя, — сказала Чарапаха, — усе прыгожыя.

— А чаму гэта брыда завецца шчытом? — спытала Маладзенькая Жабка.

— Яна цвёрдая.

— Няўжо-о? Во-ой! Быць не можа.

Самая смелая з жабак падплыла асцярожна і дакранулася да панцыра лапкай.

— Вой! Яна ж як жалезная!

— Ну і што? — сказала Чарапаха.

— Цвёрдая!.. Голасу не мае!..

— Усё роўна вы мне падабаецеся. Спяваеце прыгожа. Мне адной сумна.

Але жабы ўжо разышліся:

— Жалезная жаба, — зарагатала самая насмешлівая.

— А мы мяккія жабкі. Зялёныя.

— Жалезная! Гы-гы-гы!

Чарапаха пачала крыўдаваць:

— Кожная жывёла — розная. А я — карысная.

— І мы кар-рысныя... А ў цябе голасу няма... Кар-рычневая...

— Жаба ў танку, — пажартавала насмешніца.

Пакрыўдзілася бедная Чарапаха, нырнула і паплыла ў пратоку, а пасля ў сваю азярынку. А жабы, гледзячы на яе бурбалкі, зноў завялі сваю валынку з катрынкай:

Бур-ракоў не было —
Бр-ручкі навар-рыла...

... Ну і што? І ці добра гэта атрымалася? Тут сабе жабкі весела спяваюць дурныя словы добрымі галасамі. А там Чарапаха, што не мае голасу, але ведае добрыя словы, ляжыць сабе пад вадой, пад святлом месяца, пакрыўджаная і аднаадзінюсенькая.

І нашто, калі ты зялёны і мяккі, лаяць таго, хто карычневы і цвёрды? Ты вось ходзіш на дзвюх нагах, а кот — на чатырох. І няхай сабе.

Дрэнна вы зрабілі, жабы. Ану, марш адразу ж у Чарапахі прабачэння прасіць, перапрашаць яе!

А ты зараз кладзіся спаць, бо жабы будуць перапрашаць Чарапаху аж да раніцы. А пасля прыйдуць да нашых дзвярэй. І раніцай, калі прачнешся, тата або мама, бабуля або дзед раскажуць табе, даравала жабам Чарапаха ці не.

**УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ**

Для самых маленькіх

**Васіль Вітка**

## БЫЧОК

— Бысю, бысю, бысенька,
Беленькая лысінка,
Хто гэта пабіў табе
Аж дзве шышкі на ілбе?

— Гэта ж я з Пятром бароўся,
Пабароў Пятро мяне.
З таго часу я зарокся,
Што ўжо больш не буду — не,

Бо калі яшчэ хоць трошкі
Болей саступлю яму, —
Ой, баюся я, што рожкі
Вырастуць і ў Пеці...М-му!



**Ганна Іванова**

## НАВІНА

Вы не чулі навіны?
Я сцвярджаю без маны:
Чалавек расце —
У сне!
І прашу паверыць мне!
Вы памыліся?
Расшпіліліся?
Шнуркі развязалі?
Дабранач сказалі?
Ну тады давайце
Вочы закрывайце!
Вейкі апусціце
І ўсю ноч —
Расціце!

**Эдуард Зубрыцкі**

## ДЗЯДЗЬКА ГРОМ

Ён нябачны,
Дзядзька Гром.
Там, у хмарах,
Яго дом.

Дом без вокан,
Без дзвярэй,
Жыць так, пэўна,
Весялей.

Ну а сумна стане —
Зранку
Кліча ў госці ён
Маланку.

І тады
Усё кругом
Весяліцца
Пад дажджом.





*Спявае Марта Драль з Васількова.* **Фота Я. Чэрнякевіч.**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА Ў КАВУНЕ

Аднойчы ночай мышка Пік-Пік прачнулася і вырашыла, што час паесці. Пабегла на кухню, а там на стале ляжаў вялікі-вялікі кавун. Гэты кавун прынёс для дзяўчынкі Веранічкі горды і шчаслівы тата. А Веранічка і мама вырашылі гэты кавун не есці да заўтра, каб заўтра налюбавацца ім.

Убачыла Пік-Пік кавун.

„Гэта „хто" ці „што"? — надумала яна. „Калі гэта „што", яго можна наспрабаваць з'есці, а калі гэта „хто", у яго можна нешта смачнае папрасіць."

Мышка залезла на стол і абнюхала кавун. Пахла соладка.

Паспрабавала мышка яго ўкусіць — нічога не атрымалася.

Раззлавалася Пік-Пік, схапіла нож, якім адкрываюць кансервы, і — хрась! У зялёным баку кавуна ўтварылася чырвоная дзірка, з якой паліўся смачны, духмяны напой!

Мышка імгненна ўгрызлася ў гэтую спакусную чырвань. Чулася толькі „Смач-смач-смач-смач-на..." І хутка звонку тырчэў адзін мышкін хвосцік, а пасля і ён знік у кавуне.

Пік-Пік ела, ела, ела, і з'ела ўсё смачнае ў кавуне разам з семкамі. „Ну, можна ісці адпачываць", — задаволена надумала мышка, і пачала шукаць дзірку, праз якую ўлезла ў кавун.

Мышка пакруцілася ў пустым, як мячык, кавуне і ўбачыла маленькую круглую адтуліну. Але цяпер туды мог прасунуцца толькі мышкін хвосцік! Усё начынне кавуна знаходзілася ў жывоціку Пік-Пік, і яна зрабілася сама круглая і вялікая, і ледзь паварочвалася ў выедзеным кавуне.

Напалохалася мышка, закруцілася, і кавун закруціўся разам з ёй. І тут якраз на кухню зайшла котка Пепіта. Бачыць Пепіта — ляжыць кавун на стале і круціцца, як ваўчок. „Ён не хоча, каб заўтра яго з'елі," — здагадалася Пепіта. — „Ён хоча ўцячы. А тата казаў, што аддаў за яго ўсе грошы з кашальком. Няўжо дарэмна прападзе такі каштоўны кашалёк?!"

І Пепіта пабегла будзіць дзяўчынку Веранічку і маму. А тату яна будзіць не стала. Бо вечарам тата сказаў, што калі і сёння яму не дадуць выспацца, заўтра ён не пойдзе ў магазін і не купіць нікому цукерак.

Прыйшлі мама і Веранічка на кухню, а там на стале кавун скача! „Трэба яго разрэзаць!" — вырашылі мама і Веранічка. І мышка Пік-Пік заскакала яшчэ адчайней, так што кавун упаў са стала і пакаціўся ў пакой хутка-хутка, як мяч у дзядзі футбаліста.

А ў пакоі спаў тата. Кавун ударыўся аб татаў ложак, падскочыў і ўпаў проста на тату, і раскалоўся ў яго на галаве!



**Мышка Пік-Пік.**
*Малюнак Касі Попік.*

„Гвалт!" — закрычаў тата. — Па мне бегаюць піраты!"

І толькі котка Пепіта заўважыла, як з расколатага кавуна выскачыла кругленькая мокрая істота і пабегла пад шафу.

Урэшце рэшт усе супакоіліся і заснулі.

Канечне, наўрад ці мышка Пік-Пік спала б спакойна, каб ведала, што заўтра ўсе застануцца без цукерак!

Людміла Рублеўская




### ГЭТА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД КАТОЎ

— Колькі жывуць мышы? — спытаў настаўнік.

— Гэта залежыць ад катоў, — адказаў вучань.

### „ЧУЛЛІВАЯ" МАЦІ

Сын атрымаў па гісторыі двойку. Маці абурылася:

— Я сама пагавару з настаўнікам! Адкуль ведаць хлопчыку, што было сто гадоў назад?!

### ЧАМУ Ж НЯМА БАРАДЫ?

Унучка спытала ў бабулі:

— Бабуля, старэйшая ты, ці мой тата?

— Я старэйшая, маленькая. Твой тата — мой сын.

— Не, тата старэйшы, — запярэчыла дзяўчынка. — У яго ёсць барада, а ў цябе няма!

### АДКАЗ СЫНУ

Сын кажа бацьку:

— Тата, купі мне барабан.

— Ты і без барабана не даеш мне заснуць, — адказвае бацька. — А калі купіць табе барабан, не ўяўляю, што тут будзе!

— А я буду барабаніць, калі ты заснеш!

( В. Б. )

Мікола Капыловіч

### БАЛБАТЛІВАЯ ПТУШАЧКА

Жыла-была адна птушачка з прарэзлівым голасам. Пралятаючы над палямі і рэчкамі, яна заўсёды крычала:

— Гэта маё! Гэта маё!..

Аднойчы птушачка знайшла кусты, на якіх чырванелі ягады. Іх было так многа, што яна не магла б з'есці і за год. Птушачка вельмі ўзрадавалася, скакала з галінкі на галінку і хутка наелася. Але яна баялася, што і іншыя птушкі знойдуць гэтыя кусты і захочуць паспытаць смачных ягад. І пранізліва закрычала:

— Гэта маё! Гэта маё!..

Яна крычала так доўга, што ўсе птушкі пачулі яе голас і зляцеліся паглядзець, што здарылася. Убачылі спелыя сакавітыя ягады, адразу здзяўблі іх і паляцелі.

А бедная птушачка ўсё кружылася над сваімі кустамі і крычала:

— Гэта маё! Гэта маё!..

*Вершы Віктара Шведа*

### ШКАДА МНЕ ДНЯ

Заўсёды па абедзе
Драмаў маленькі Федзя.
А сёння лёг у ложак —
Заснуць ніяк не можа.
— Засні, засні, сыночак,
Заплюшч нарэшце вочы...
Сыночак усміхнуўся:
— Шкада мне дня, мамуся.




Польшча, Дубічы-Асочныя 23, 17-205 Новаберазова, **Агнешка Дзянісюк** (12 гадоў, хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай 11-12 гадоў).

* * *

Беларусь, 231930, Гродзенская вобл., Зельва, вул. Рагова, д. 6, **Апановіч Людміла** (14 гадоў, цікавіцца альгебрай, музыкай, хіміяй, спортам, збірае паштоўкі, наклейкі, любіць чытаць, маляваць, апекавацца жывёламі і кветкамі, хоча пазнаёміцца з дзецьмі 13-15 гадоў).

* * *

СССР, 346555, г. Шахты-55, Ростовская обл., ул. Келдыша, 3а-5, **Сендикаева Эльмира.**






*Спрабуй намаляваць гэту зорку, не адрываючы алоўка ад паперы.*

# СМЕХ І БЯДА

Вясной ехала я да знаёмай у сталіцу. Дзень быў не вельмі прыемны. Было хмурна, але парка і здавалася, што вось-вось будзе дождж. Многія шкадавалі, што не ўзялі парасонаў.

У нашым купэ сядзела двух мужчын, дзве жанчыны і я. На адным з прыпынкаў увайшла жанчына сярэдніх гадоў. У яе была вялікая сетка, поўная пачак з мукой. Сетку павесіла яна на гаку над галавой прыгожа апранутага мужчыны.

Усе сядзелі моўчкі і невядома калі заснулі. Некалькі разоў я адкрывала вочы і здавалася мне, што над галавой „элеганціка" віецца белы шнурок, які падае яму на калені. „Дрэнны знак, — падумала я. — Старыя людзі гавораць, што абазначае гэта нейкае няшчасце або нават смерць у сям'і".

Рантам „элеганцік" абудзіўся і пачаў крычаць:

— А гэта што такое?! Вы мне змарнавалі нагавіцы! Як я выглядаю?! Як я пакажуся сваёй нарачонай?!

Тут аказалася, што гэта быў не шнурок, а найзвыклейшая мука, якая паволі сыпалася з пачка, які перарэзала жылка сеткі.

Жанчына пачала перапрашаць хлопца. Ён не звяртаў на гэта ўвагі. Мы ўрэшце пераканалі яго, што нагавіцы давядзем да парадку. Жанчына вытрасе з іх муку, а ў мяне ёсць вада і вымыем пляму.

„Элеганцік" пайшоў у прыбіральню, зняў нагавіцы і даў іх жанчыне. Прыйшла яна ў купэ і пачала іх вытрасаць, высунуўшы іх за акно. Тут з другога боку пад'ехаў таварны цягнік, які моцным подмухам вырваў у яе з рук нагавіцы. Жанчына спалохалася і разгубілася. Мы ёй параілі, каб яна хутчэй выйшла на першым жа прыпынку з цягніка, а мы будзем далей неяк разбірацца.

Калі мы паведамілі „элеганціку" аб тым, што здарылася, ён пачаў верашчаць на чым свет стаіць. Нейк мы яго супакоілі. Другі мужчына аддаў яму свой доўгі плашч і намовіў яго купіць нагавіцы ў краме або на рынку. Не было выхаду. Шкада было „элеганціка", але што зробіш!

**Аўрора**

************************************************

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

**Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.**

**Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 3812. Салавянюк Уладзімір (Гайнаўка) | - 50.000 зл. |
| 3813. Сума са скарбонкі з „Ночы Купалы" 6 ліпеня 1991 г. у Белавежы | - 992.000 зл. |
| 3814. Юрась Сцяпанаў (Віцебск) | - 5.000 зл. |
| 3815. Галіна Маліш (Гайнаўка) | - 30.000 зл. |
| 3816. Мікалай Гайдук (Беласток) | - 10.000 зл. |
| 3817. Рыгор Кудэрскі (Махнатае) | - 25.000 зл. |
| 3818. Марэк Рэдзінскі (Гданьск) | - 50.000 зл. |
| 3819. Ніна Баршчэўская (Варшава) | - 100.000 зл. |
| 3820. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | - 100.000 зл. |
| 3821. Валянціна Ласкевіч (Беласток) | - 100.000 зл. |
| 3822. Ян Даніловіч (Гайнаўка) | - 100.000 зл. |
| 3823. Андрэй Сабалеўскі (Варшава) | - 50.000 зл. |
| 3824. Сцяпан Багацэвіч (Быдгашч) | - 10.000 зл. |
| 3825. Рыгор Шэйпак (Аўстралія) | - 100.000 зл. |
| 3826. Мар'я Данялецкая (Гайнаўка) | - 60.000 зл. |
| 3827. Мікалай Касцючук (Тыневічы-Вялікія) | - 50.000 зл. |
| 3828. Вера Рашко (Тыневічы-Вялікія) | - 20.000 зл. |
| 3829. Уладзімір Касцючук (Тыневічы-Вялікія) | - 10.000 зл. |
| 3830. Стэфанія Селевясюк (Тыневічы-Вялікія) | - 12.000 зл. |
| 3831. Мар'я Вязоўская (Тыневічы-Вялікія) | - 20.000 зл. |
| 3832. Андрэй Ляўчук (Тыневічы-Вялікія) | - 50.000 зл. |
| 3833. Івона Свентахоўская (Тыневічы-Вялікія) | - 50.000 зл. |
| 3834. Мар'я Лэнчыцкая (Тыневічы-Вялікія) | - 20.000 зл. |
| 3835. Уладзімір Саўчук (Тыневічы-Вялікія) | - 100.000 зл. |
| 3836. Ян Садоўскі (Тыневічы-Вялікія) | - 20.000 зл. |
| 3837. Уладзімір Дудзіч (Тыневічы-Вялікія) | - 12.000 зл. |
| 3838. Сафія Асташэўская (Тыневічы-Вялікія) | - 20.000 зл. |
| 3839. Уладзімір і Анна Астапкевіч (Гайнаўка) | - 120.000 зл. |
| 3840. Уладзімір Балтрамюк (Гайнаўка) | - 60.000 зл. |
| 3841. Рыгор Шэйпак (Аўстралія) | - 100.000 зл. |
| 3842. Міхал Байко (Гайнаўка) | - 60.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42. Тэлефон 30-16.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Лілька з 42-га нумара „Нівы" яшчэ мела шчасце, што яе хлопец у сваіх сексуальных парывах на момант затрымаўся ў пасцелі дзяўчыны твайго калегі з працы. У іншым выпадку была б і не даведалася канкрэтна пра здраду. А яшчэ ж, дурніца, вагаецца: кідаць — не кідаць яго? Кідаць, ды як мага хутчэй! Але калі магу нешта ёй параіць, дык скажу: не рвацца адразу да другога хлопца, бо скончыцца гэта можа кепска. Так было ў мяне.

Мой хлопец, як заўважыла я, пачаў „скакаць на бокі". Заўважыла я гэта, калі ён захварэў і яго палажылі ў бальніцу. Я сказала, што наведаю яго, але ён як бы перапужаўся, прасіў, каб я сказала, калі я прыйду, дык ён тады сыйдзе ўніз.

Нешта мяне цюкнула. Думаю: няўжо знюхаўся з нейкай сястрой, а мо, што яшчэ горш, з дакторкай? І так мне ўжо неяк тады зрабілася млосна. Але ж вось вырашыла я калісьці зайсці да яго ў палату. Гляджу, а там нейкія хатнія стравы — салаты, печаная качка.

Мяне затрэсла. „Хто быў?" — пытаю, бо ведаю ж, што ў яго няма бацькоў, ён з дзіцячага дома. А ён мне кажа, што сябра. Не сказаў, які. Фактычна, мог яму прынесці ўсё гэта і сябра, які мае маці, але ж... дзе такія сябры цяпер бываюць?..

Я ўсё яшчэ хацела верыць. Калісь прыйшла да яго вечарам (знаёмы лекар упусціў мяне). Хлопца майго не было ў палаце, сказалі, што ён у святліцы. Я ў святліцу — а там сядзіць на крэсле мой хлопец, а на каленях у яго элегантная дзяўчына, з якой ён цалуецца.

Я пахаладзела. Бачыла, што хлопцу майму было няёмка, але я з сабой не магла саўладаць. „Ах так!" — сказала я, трэснула дзвярыма і збегла ўніз па сходах.

Што рабіць, што рабіць?! У „майго" хлопца было шмат сяброў. Адзін быў нават вельмі прыстойны. Няраз кідаў на мяне гарачы позірк. Мне гэта нават дастаўляла радасць, і „мой" хлопец часта звяртаў на гэта ўвагу.

Я падумала сабе: той жа хлопец казаў, што едзе ў Варшаву ў камандзіроўку, а пасля нават званіў мне з гатэля і, калі я спытала, што ён там парабляе, адказаў мне вельмі міла: „Думаю пра цябе"!.

І вырашыла я зрабіць яму неспадзеўку. Нічога не кажучы бацькам, я выбралася ў вольную суботу ў Варшаву.

У пакоі майго знаёмага таксама не было. У рэцэпцыі мне сказалі, што ён у бары. І сапраўды быў там. Сядзеў на высокім табурэце, абнімаючы дзяўчыну, якая сядзела побач.

Мне стала страшна. Я вырашыла ехаць дахаты, не паказваючыся яму на вочы. Навошта ж гаварыў пра свае адданне мне, калі меў іншую, навошта абкідаў мяне сваімі гарачымі позіркамі?

Усе мужчыны подлыя!

**Ядзя**

Ядзечка! А мо ў яго вочы такія палымяныя?! Мала то хто абкідае прыгожых дзяўчат сваімі позіркамі, поўнымі пажадання?! А што званіў табе — ну што яму шкодзіць пазваніць у вольную хвіліну да яшчэ адной дзяўчыны і сказаць ёй, што думае пра яе!

Адным словам, спарола ты гарачку, а трэба было спакайней. Падзякуй Богу, што скончылася толькі так. Калісь адна пісала нам, што зрабіла гэтак, калі здрадзіў ёй муж. Зацяжарыла. А той другі таксама меў сваю дзяўчыну.

Не прасі кахання ў свайго хлопца! Не лезь у пасцель да іншых! Адпачні! Час, ён гоіць раны і дазваляе прыняць разумнае рашэнне.

**СЭРЦАЙКА**

**************************************************

# КУХОННЫЯ ПЛЯЦЫ

## З ІТАЛЬЯНСКАЙ КУХНІ

### ПАМІДОРНЫЯ СОУСЫ

**1.** Узяць: 3 лыжкі алею з аліў, 1-2 цыбуліны, 1 зубок часнаку, 1/2 сцертага на тарцы сэлера, 1 сцертую морквіну, 500 г абабраных са скуркі памідораў або памідорны канцэнтрат, 3 лыжкі базыліі, булён, соль, крыху прыправы з мускатнага арэха (мушкаталовай галкі), крыху перцу.

На гарачым алеі падсмажыць пасечаную цыбулю і часнок, дадаць гародніну і варыць у невялікай колькасці булёну на працягу 20 мінут. Тады дадаць памідоры ці памідорны канцэнтрат і варыць яшчэ паўгадзіны на невялікім агні. Заправіць па смаку. Можна зміксаваць у міксеры. Падаваць да макарону.

**2.** Узяць тыя ж прадукты, што і ў соусе **1**, а таксама: 1/2 чырвонай папрыкі, 1 кілішак белага ці далікатнага чырвонага віна, 2 лыжкі падсмажанага і пасечанага насення півіі.

Падрыхтаваць соус паводле папярэдняга рэцэпта і зварыць у ім ачышчаную ад зярнят і валокан, нарэзаную палоскамі папрыку. На сухой патэльні крыху падсмажыць насенне півіі, дадаць да гатовага соусу і даліць у канцы віна.

### ПАМІДОРНЫ СОУС ПА-СІЦЫЛІЙСКУ.

Прадукты: адна маленькая баначка памідорнага канцэнтрату, 3 лыжкі цукру, 3 лыжкі цёмнага сушанага вінаграду, 4 лыжкі насення півіі, 3 лыжкі лімоннага соку або 2 лыжкі віннага воцату, кубачак вады або соку з яблыкаў, ці вада, змешаная напалавіну з вінам.

На невялікім агні распусціць цукар у вадзе або ў соку з яблыкаў, дадаць вінаград і насенне півіі, а пасля памідорны канцэнтрат і лімонны сок ці вінны воцат. Варыць 15 мінут на невялікім агні. Дадаць па смаку віна.

Вельмі падыходзіць гэты соус да рыбы і птушкі.

### ПАМІДОРНА-ЗЁЛКАВЫ СОУС ПА-СІЦЫЛІЙСКУ.

Узяць наступныя прадукты: 3 лыжкі алею з аліў, 1 вялікую цыбуліну, 1 невялікі пучок зялёнай пятрушкі, 1 малы пучок базыліі, 300 г перацёру са свежых памідораў, 1-2 лыжачкі цукру, 1 лыжку віннага воцату, крыху солі, перцу і кавалачак карыцы (цынамону).

У гарачым алеі падтушыць пасечаную цыбулю і дробна нарэзаныя зёлкі, дадаць памідоры і ўсё іншае. Варыць на невялікім агні каля 20 мінут.

### ПАМІДОРНЫ СОУС З ТЛУШЧАМ.

Узяць 125 г дробна нарэзанага тлушчу з шынкі, 1 цыбуліну, 1 зубок часнаку, 500 г свежых памідораў, 1 лыжку базыліі, 1 лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі, крыху солі і перцу.

Дробна пасечаную цыбулю і часнок падсмажыць з тлушчам, дадаць дробна нарэзаныя памідоры і зёлкі, стушыць на малым агні, раздрабніць у міксеры.

Падаваць з макаронам.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ІМПАРТГУМАР

Гаспадар пытае госця:
— Хочаш пачуць гаворачыя часы?
— Хачу.
Гаспадар бярэ цэглу і стукае ёю ў сцяну.
Голас з-за сцяны:
— Божа мой, другая гадзіна ночы!

***

Хірург пазваніў па тэлефону з бальніцы ў краму:
— Скажыце, колькі сёння было ў вас пакупнікоў на матацыклы?
— Чатыры.
— Значыць, я яшчэ не магу ісці дадому — да нас пакуль што прывезлі толькі трох.

***

У дзверы кватэры пастукалі грабежнікі.
— Хто там?
— Не бойцеся, не госці.

***

У краму прыйшоў пакупнік.
— У вас каўбаса ёсць?
— Ёсць.
— А мяса?
— І мяса ёсць.
— І куры ў вас ёсць?!
— І куры ёсць.
— А чаго вы смяецеся?
— А ты першы пачаў...

***

У сувязі з кастрычніцкім святам журналіст бярэ інтэрв'ю:

— Не хочаце вы што-небудзь сказаць?!

— А пайшоў ты...

— І так у цэлым горадзе! Жарты! Смех! Радасць!

***

Стаіць наркаман у аўтобусе. Падыходзіць да яго бабулька і просіць, каб той скасаваў білет.
Каля касоўніка стаіць марак. Наркаман перадае яму бабулін білет і кажа:
— Салдат, скасуй білет!
— Я не салдат, я матрос.
Наркаман паварочваецца да бабулі і гаворыць:
— Нічога не будзе, бабка, мы на караблі!..

***

Беласток, 6 гадзіна раніцы. На балкон выходзіць жанчына і бачыць, што суседка сядзіць на балконе і плача.

— Што сталася, чаго плачаш?

— А што мне рабіць? Учора мой муж прыйшоў з працы п'яны, пабіў мяне, ударыў дзіця і пайшоў да прастытутак... У вас яго няма?

*Падборку зрабіў Янка Целушэцкі*

# НІЎКА



Ці выпадкова не павінен ён ляжаць у нагах?

### Інтэрпрэтатары чужых казак

## З ІНШАЙ БАЙКІ

Стаяла галоснае надвор'е. Жыхары гарадка Вандэйска, названага так у гонар прагрэсіўнага замежнага мастака Ван Дэйка, павыпускалі са сваіх клетак дэмакратыю, і тая весела цырыкала.

Па вуліцы вадзілі баявога слана па імені Даперабудуль. Ён быў прамым нашчадкам таўстаскурых (па-сучаснаму бранятанкавых) войск персідскага цара Дарыя.

І трэба ж такому здарыцца: з завугольляў кінуўся на слана адважны сабачка па мянушцы Перабудовік і пачаў сварку...

Ай, ды Перабудовік! І, зрэшты, моцны духам! Не ж, каб павітаць баявога слана, лізнуць яму нагу...

Ад усяго такога надвор'е сапсавалася. Раптам стала цёмна.

Адзін вандайчанін зірнуў наверх і ўздыхнуў:
— Буракраты неба крыюць...
Але ж гэта з іншай байкі...

**ІЛЬЯ ШАХРАЙ**
**(„Чырвоная змена")**

# ПАРОДЫІ

## ГАНАРЛІВЫ ПОМНІК

*Навошта мне помнік,*
*Не трэба,*
*Ну што я такое зрабіў?*
**Авяр'ян Дзеружынскі**

Не трэба мне зусім ільгот
І нават помнік персанальны.
Няхай бы зборнікі штогод
Мае паўсёль лепш выдавалі.

Навошта лішні шум і гам?
Даўно пара усім запомніць:
За ганарары я і сам
Сабе змагу паставіць помнік.

**АНАТОЛЬ ЗЭКАЎ**

# ДЫЯЛОГІ

## ПЕСІМІСТ

— Малады чалавек, чаму вы заўсёды такі сумны?
— Якая можа быць весялосць, калі цябе чакае смерць.
— Які жах! І калі ж?
— У тым і справа, што не ведаю.

*В. Ліспапад*

## ТОНКІ ПАДЫХОД

— Ганна, твой стары курыць?
— Не!
— Тады, значыць, ваша хата гарыць.

*В. Жураўскі*

## ЯК ЗВЕСЦІ СА СВЕТУ КАЛАРАДСКАГА ЖУКА

— Ты чаго расхваляваўся, Савось?
— А ты глянь на бульбяное поле: адны бірцукі, усё лісце пажраў каларадскі жук, хай на яго трасца, рады няма.
— А ты вунь рэчку бачыш?
— Ну і што?
— Дык бяры ваду і пырскай.
— Вадой?!
— Дурань! У ёй жа растварыліся ўсе атруты, усе яды, уся хімія, рыба паздыхала, а тут нейкі жук!
— Гм-м.

*I. Сушэвіч* („Вожык")

# КАСЯК НА „В"




**Управа:** 1) паглыбленне, упадзіна, 2) паўкруг, якім дамы абмахваліся ў духату, 3) паварот на спартыўнай дарожцы, 5) горад над Одрай, 7) на ёй вісіць адзенне, 10) імя аўтара краязнаўчага нарысу „На бабровых азёрах", 12) пачатак ракі, першакрыніца, 13) найважнейшы ў гміне.

**Улева:** 1) салдат, баец, 2) на малацэ, якое адстаялася, 4) невялікая птушка з жаночым імем у пачатку, 6) паведамленне, вестка, 8) дзяржава ў Рыме, 9) не адзін у чыгунцы, два ў трамваі, 11) пранізлівы крык з мучыцелем у канцы, 14) прамая, якая ў цэнтры або сярэдзіна кола.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку, змешчаную ў 38 нумары:** канал, падла, смала, манах, пагон, запас, адрас, армія, віхар, баран, кабан, вярба, зямля, прыём, тыран, сетка, смерч, плашч, вёска, вясна.

************************************************************


Niva

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1992 r. upływa 20 listopada 1991 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.500 zł.
Cena prenumeraty miesięcznej:
- październik - 10.000 zł.
- listopad - 10. 000 zł.
- grudzień - 12. 500 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.